КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 11 (332) ◂ 22 сакавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



СЯРГЕЙ ХАНЖАНКОЎ

Стар. 6

**МІЛІЦЫЯ ПАЗБЯГАЕ ІДЭАЛОГІІ, ПРЫВАБЛІВАЮЧЫ РАМАНТЫКАЙ**

Сталічная міліцыя першы раз за сваю гісторыю правяла ўласны кірмаш вакансій. Яго арганізатары, адмаўляючы праблему з кадрамі, патлумачылі сэнс мерапрыемства жаданнем пашырыць кола суіскальнікаў

Стар. 5

**ХТО БАІЦЦА ПАПУ-ЕЗУІТА?**

Абранне першага ў гісторыі Папы-езуіта выклікала ў прэсе мноства спекуляцый наконт сапраўдных працэсаў у Ватыкане

Стар. 13

**60 ГАДОЎ БЕРЫЕЎСКАЙ АМНІСТЫІ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10011

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**АНДРЭЙ БАНДАРЭНКА**

Нарыс Аляксандра Тамковіча з цыклу «Трэці сектар у асобах»

▸ **25 САКАВІКА**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА НАЗАЎСЁДЫ

*Сяргей ПУЛЬША*

**Напярэдадні Дня Волі ціха і спакойна прайшло пахаванне тых ідэй, пад якімі напачатку спрабавалі ліквідаваць незалежнасць Беларусі. Гэтага амаль ніхто не заўважыў. Усе былі зацікаўлены больш істотнымі справамі: крэдытамі, нафтай, прыватызацыяй.**




Вяхі пагроз і абароны незалежнасці можна прасачыць па дзвюх рэчах: заключаных міжнародных дамовах і масавых пратэстах беларускага народа. Ад моманту ж існавання незалежнай Беларусі пагроз узнікала нямала.

Першая пагроза была ліквідаваная разам з урадам. Варта нагадаць, што з першага дня незалежнасці Беларусі Расія, якая і выступіла гарантам гэтай незалежнасці, не пакідала намераў прыбраць сіняво-кую да сябе. Першай такой спробай было ўвядзенне адзінай валюты. Ідэя гэта, насамрэч, належыць не Аляксандру Лукашэнку, а прэм'еру Вячаславу Кебічу. Менавіта ён, калі яшчэ Беларусь толькі-толькі абвясціла незалежнасць, пачаў размову аб увядзенні ў Беларусі ў якасці валюты расійскага рубля. Гэта было адным з глупстваў, якое каштавала Кебічу паразы на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года.

Але новыя пагрозы — пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі — насілі больш сістэмны характар. Тут ужо размова ішла не пра эканамічную, а канкрэтна пра палітычную незалежнасць. І ўсякім разам любая з іх выклікала народны пратэст. Нават будзе правільным сказаць, што нішто беларусы так не баранілі, як сваю незалежнасць. Што б там ні казалі палітыкі-сацыёлагі пра «нематэрыяльную каштоўнасць, якая не выклікае цікавасці ў народзе», увесь час менавіта народ, на дзіва гэтым мыслярам, даказваў адваротнае.

2 красавіка 1996 года Аляксандр Лукашэнка падпісвае ў Расіі «дамоўленасць аб стварэнні супольнасці Беларусі і Расіі». У той жа дзень, услед за мітынгам Дня Волі, у Мінску выбухае 80-тысячны мітынг супраць гэтай супольнасці. Свае адносіны да гэтага выказваюцца і падчас шматлюднага і багатага на сутычкі «Чарнобыльскага шляху». З'ява, якую потым журналісты аб'яднаюць пад агульнай назвай «Мінская вясна». Далейшае стварэнне інтэграцыйных ініцыятываў адкладваецца на год.

Варта адзначыць, што ўвосень 1996 года ў абарону Вярхоўнага Савета 13-га склікання і супраць прэзідэнцкага рэферэндуму выступіла нашмат менш людзей. Таму ВС–13, не маючы за сабой значнай падтрымкі, і не здолеў сябе адстаяць, не здолеў мабілізаваць грамадства. Спадзяваўся на расійскія «гаранты» групоўкі Строева—Селязнёва. За што змагаліся, на тое і нарваліся — хіба магла Расія падтрымаць адстаўку Аляксандра Лукашэнкі і пахаваць усе надзеі на паглынанне Беларусі?

У 1997 годзе, 2 красавіка, падпісваецца новы дакумент аб прынцыпах стварэння Саюзнай дзяржавы. Ізноў у Мінску — масавыя акцыі пратэсту. Людзі не хочуць быць у хаўрусе з Расіяй. Стварэнне Саюза зноў адкладзенае — ужо на два гады. І толькі 8 снежня 1999 года была падпісаная Дамова аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

Чаму не было далейшых пратэстаў? Як казаў пісьменнік Банеў з рамана братоў Стругацкіх «Брыдкія лебедзі»: «Народ шэры, але мудры». Ужо тады было адчуванне, што з гэтай задумы нічога не атрымаецца. У тым жа 1999 годзе вечная расійская дысідэнтка Валерыя Навадворская казала аўтару гэтых радкоў: «Вы яшчэ пабачыце тое, як Лукашэнка будзе змагацца за сваю незалежнасць у акопах, у партызанцы!» Тады гэта здавалася такой жа фантастыкай, як і пісьменнік Банеў.

І што ж мы пабачылі ў выніку? Адчуванне рэальнай улады і кантроль за «сваім» — лекі значна лепшыя, чым усе народныя пратэсты. Нягледзячы на тое, што сам Лукашэнка пайшоў па шляху Кебіча і пачаў нешта прамаўляць пра адзіную валюту, пра Канстытуцыйны акт, нічога з гэтага рэалізавана не было. Больш за тое, як толькі Пуцін прапанаваў «аддзяліць мух ад катлет» і заявіў пра магчымасць далучэння Беларусі да Расіі сямю абласцямі, слухаць яго ніхто не стаў. Наадварот, у выніку такой заявы колькасць прыхільнікаў аб'яднання знізілася да рэкордна нізкага ўзроўню.

У той жа час Аляксандр Лукашэнка пачаў цвердзіць, што менавіта ён з'яўляецца «гарантам незалежнасці і суверэнітэту Беларусі», што незалежнасць — гэта найвышэйшая каштоўнасць, дадзеная нам ад Бога. Што будзем гніць у акопах, але не дазволім нас «нахіліць», і незалежнасці сваёй не аддамо нікому і нізавошта. Кожны раз, калі Лукашэнка ўзгадвае акопы, аўтар узгадвае Навадворскую.

Сёлета, так сімвалічна супала, якраз напярэдадні Дня Волі ў Пецярбурзе прайшло пасяджэнне Вышэйшага Дзяржсавета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Збянтэжаны, з яго выйшаў Аляксандр Лукашэнка: Расія не дала яму запланаваны крэдыт. А напярэдадні Мінск з Масквой падпісалі пагадненне па пастаўках нафты — не на год, а ўсяго толькі на другую чвэрць 2013 года.

Ну, скажыце, што гэта за дзяржава, дзе адна частка абмяжоўвае пастаўкі нафты другой частцы? Ці дзяржава гэта, калі адна яе частка дае (альбо, у нашым выпадку, не дае) грошы другой частцы толькі ў крэдыт? Зразумела, што ніякай адзінай дзяржавы не існуе.

А зараз — цытата: «Калі сур'ёзна казаць аб пабудове Саюзнай дзяржавы, то трэба ўзгадаць і праект Канстытуцыйнага акта, і пытанне адзінай валюты, якое не закрытае. Іншая справа, ці трэба гэта рабіць зараз і ці ў той форме, якая задумвалася ў 1999 годзе? Але досвед Еўрасаюза прымушае нас задацца пытаннем: а ці ёсць увогуле сэнс у адзінай валюце?» Гэта словы не нейкага «ўмеранага» апазіцыянера, не скептыка праекта Саюзнай дзяржавы, а самога дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоты.

Вось так Рапота пацвердзіў курс Беларусі на незалежнасць, пахаваўшы сваю пасаду і Саюзную дзяржаву, і ўсе інтэграцыйныя памкненні Аляксандра Лукашэнкі.

Зараз апазіцыя шмат кажа пра пагрозу страты эканамічнай незалежнасці Беларусі. Адказаць на гэта можна толькі словамі Трэцяй Устаўной граматы БНР: «Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі». Калі народ Беларусі зноў праявіць сваю мудрасць, аніякай страты эканамічнай незалежнасці не будзе.

Падаруначак на Дзень Волі атрымаўся такі — нішто сабе. Але ўсё ж нашу незалежнасць мы сапраўды павінны адстойваць кожны дзень. Тады яна сапраўды будзе назаўсёды.

КОШТЫ

# ЯБЛЫЧКІ — З НІДЭРЛАНДАЎ, ПАМІДОРЧЫКІ — З МАРОКА

Генадзь КЕСНЕР

**Сакавік — самы час авітамінозу. Дый Вялікі пост пачаўся ў праваслаўных вернікаў, калі на стале замест мяса ды тварагу са смятанай мусіць быць садавіна ды гародніна. А ці ў стане большасць жыхароў Беларусі забяспечыць сабе вітамінны стол? Баюся, што не.**

Па-першае, кусаюцца кошты. Па-другое, сваёй вітаміннай прадукцыі на прылаўках альбо няма, альбо ёсць у вельмі невялікай колькасці. Дзе-нідзе яшчэ можна прыдбаць беларускія яблыкі па 9–11 тысяч рублёў за кілаграм. Але ў абсалютнай большасці крамы ды рынкі прапануюць пакупнікам гэтую прадукцыю з Нідэрландаў, Бельгіі, Італіі ды іншых зусім не блізкіх краінаў па коштах ад 25 да 40 тысяч айчынных грашовых адзінак. Вось толькі каму пашчасціць, той можа нарвацца на суседскія — польскія яблыкі па цане, параўнальнай з беларускай прадукцыяй — 9,5–12 тысяч за кіло.

А грушы беларускія, відаць, пасляхова акалацілі яшчэ летась, бо на прылаўках пераважна тая ж нідэрландская ды бельгійская прадукцыя па 30–50 ці нават болей тысяч рублёў за кіло.

Што да памідораў, дык складваецца ўражанне, нібы айчынныя цяплічныя гаспадаркі раптам кудысьці зніклі. У некалькіх крамах, якія аўтар гэтых радкоў наведаў у аўторак, прапанаваліся толькі таматы з Марока (?!) па 23–35 тысяч рублёў за кілаграм. Вельмі блізкі свет, ці не праўда? Канешне, да Ждановіцкіх цяпліц жа яшчэ дабрацца трэба!

Агуркі — тое ж самае. Бельгія, Галандыя, Італія. Прычым, нейкім дзіўным чынам кошты на гэты не самы карысны з пункту гледжання ўтрымання вітамінаў і мінералаў прадукт перавышаюць кошты на таматы. Хоць тэхналогіі іх вырошчвання амаль падобныя. Давялося бачыць «даўгавязых» і па 35, і па 50 і нават па 68 тысяч рублёў за кілаграм.

Кошты на зеляніну таксама сягаюць завоблачных вышыняў. Самыя папулярныя кроп і пятрушка, а таксама некаторыя іншыя карысныя расліны каштуюць ад 70 (у самым лепшым выпадку) да 180 тысяч рублёў за кіло. Зялёная цыбуля — ад 54 тысяч.

Пра ягады, якія прапануюцца ў некаторых крамах, лепш не ўзгадваць. Бо аддаць амаль 60 тысяч за 200-грамовы латок трускалак можа далёка не кожны чалавек нават сярэдняга дастатку, не кажучы ўжо пра большасць пакупнікоў.

Бульба (айчынная) на рынку — па амаль паўдолара за кіло (ад 4-х тысяч рублёў). А ў крамах ды на рынках зноў з'явіліся і мараканскія, і ізраільскія, і галандскія клубні, больш прывабныя знешне, але і больш дарагія. Прычым, заўважу, што кошты на «беларускі хлеб», як многія чамусьці любяць называць бульбу, толькі за апошні месяц (люты), паводле Белстату, выраслі на 5,6%. Гэта больш, чым у Расіі і Казахстане.

А ўвогуле, параўнальна з нашымі ўсходнімі суседзямі, жыццё ў лютым найбольш падаражала менавіта ў Беларусі — на 1,2%. У астатніх рост склаў менш за 1%. І як гэта стасуецца са словамі афіцыйнага беларускага лідара, які, знаходзячыся ў Санкт-Пецярбургу, у інтэрв'ю «Russia Today» у мінулую пятніцу заявіў літаральна наступнае: «Мы сёння накармілі наш народ, і кошты ў нас значна больш нізкія, чым у Расіі, Украіне, у Еўрасаюзе, чым у дзяржаваў, якія нас акаляюць»?

Альбо кіраўніка дзяржавы няправільна інфармуюць адпаведныя асобы і службы, альбо ён наўмысна выдае пажаданае за сапраўднае.



ХРОНІКА

# ХВАЛЯ САЛІДАРНАСЦІ. ЗАВЯРШЭННЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Марафон «Хваля салідарнасці», які праводзіць аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», наблізіўся да завяршэння.**

Засталося не так шмат да Дня Волі — апошняга дня марафону. Але, магчыма, акцыі салідарнасці з палітвязнямі працягнуцца і пасля яго.

14 сакавіка ў Жодзіна «Хвалю салідарнасці» падтрымалі маладафронтаўцы. Яны вывесілі ў горадзе расцяжку «Свабоду палітвязням!». Такім чынам маладафронтаўцы выказалі салідарнасць з палітычнымі вязнямі, якія зараз знаходзяцца ў беларускіх турмах, уключна з лідарам арганізацыі Змітром Дашкевічам і актывістам Эдуардам Лобавым.

17 сакавіка месцам правядзення марафону «Хваля салідарнасці» стаў Гарадок Віцебскай вобласці. Тут мясцовыя актывісты напісалі лісты палітвязням.

У Брэсце 18 сакавіка падчас марафону былі затрыманыя тры сябры аргкамітэту БХД: Улад Бароўскі, Яўген Хазіахметаў і Андрусь Шарэнда. Іх затрымалі пры вывешванні нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў. Пратрымаўшы іх у РАУС, міліцыянеры адпусцілі хлопцаў, але склалі адміністрацыйныя пратаколы. Неўзабаве над актывістамі адбудуцца суды, а непаўнагадоваму Уладу Бароўскаму павінна прыйсці позва на камісію па справах непаўнагадовых.

У час «Хвалі салідарнасці» ў Гродна 19 сакавіка было распаўсюджана болей за 2000 улётак. Распаўсюд праходзіў па навучальных установах, цырульнях, прадпрыемствах і іншых установах. Таксама ўлёткі расклейваліся на прыпынках грамадскага транспарту, слупах, дамах, афішных тумбах.

Згодна мапе «Хвалі салідарнасці», марафон прайшоў у 27 гарадах з запланаваных 37. Але арганізатары лічаць яго паспяховым. Як паведаміў адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Дзяніс Садоўскі, у рамках марафона адбыліся шматлікія мерапрыемствы: інфармацыйныя кампаніі, канцэрты, флэш-мобы, вывешваліся расцяжкі і банеры, дыктоўкі, рабіліся відэаролікі. «Вялікая колькасць грамадзян Беларусі даведалася пра існаванне палітычных вязняў у нашай краіне. Пры правядзенні акцый было адвочана, што шмат хто ў першыню чуў пра гэта. Людзі з ахвотай адгукаліся на нашы заклікі далучыцца да кампаніі салідарнасці. Многія грамадзяне, якія раней ніколі не чулі пра вязняў сумлення, прынялі рашэнне пісаць лісты і распавядаць пра гэта сваім сябрам і знаёмым. Фактычна ў гэтым і заключалася задача «Хвалі салідарнасці», — сказаў Садоўскі.

Па ягоных словах, у некаторых асобных месцах мерапрыемствы «Хвалі салідарнасці» пройдуць пасля афіцыйнай даты заканчэння марафона.

Як мяркуе Садоўскі, «Хваля салідарнасці» паўплывала таксама і на ўвагу да праблемы палітвязняў з боку міжнароднай супольнасці. «Як прыклад — прыезд Юстаса Палецкаса і яго перамовы на прадмет магчымага вызваленне ў бліжэйшы час палітычных вязняў», — адзначае адказны сакратар БХД.

ДАПАМОГА

# ЗБОР СРОДКАЎ НА ПОМНІК ГАЛІНЕ СЯМДЗЯНАВАЙ

**Сродкі на надмагільны помнік збіраюць сябры Галіны Сямдзянавай. Яны распаўсюдзілі свой зварот у інтэрнэце.**

«На ўсталяванне помніка трэба сродкі, і мы просім тых, хто ведаў і шанаваў Галіну Георгіеўну, спрычыніцца да гэтай справы сваімі складкамі».

Каардынуе збор сродкаў Валянціна Свяцкая.

Тэлефон: + 375 29 610 69 18

E-mail:valentina_svyats@mail.ru

Пералічыць грошы можна і праз сістэму PAYPAL з пазнакай «Tombstone for Halina Siamdzianava».

Аўтар праекту помніка «Палымянае сэрца» — скульптар, сябра суполкі «Пагоня» Алесь Шатэрнік.



Галіна Сямдзянава — легенда беларускага Адраджэння. Адна з лідараў незалежніцкай дэмакратычнай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 склікання, юрыст і знаўца выбарчага заканадаўства і практыкі. 18 верасня 2011 года цяжкая хвароба на 65-м годзе абарвала яе жыццё.

Паводле Радыё Свабода

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КАРМІЦЬ ТРЭБА, КАБ НЕ ЗЛЯЦЕЛІ…

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Аляксандр Лукашэнка не атрымаў ад Расіі крэдыт у памеры 2 мільярда долараў і з'ехаў з заснежанай Беларусі ў цёплыя краіны. Пэўна, ад расчаравання. Таму што эканамічныя паказчыкі, падлічаныя нават па беларускіх стандартах, нікога не ўзрадуюць. Асабліва, калі няма грошай.**

У гэтым годзе Беларусь па ўзроўні інфляцыі апярэдзіла ўсю Еўропу. Наша інфляцыя падыходзіць пад азначэнне «гіперінфляцыі». Гэта рост цэн больш чым на 100% за тры гады. Афіцыйная статыстыка сведчыць, што інфляцыя ў Беларусі па стане на люты 2013 года складае 4,3%. Лічба невысокая, але яна дасягаецца толькі таму, што па методыцы Белстата штогод 1 студзеня адбываецца «абнуленне» інфляцыі.

А вось у заходняй традыцыі — публікацыя гадавой інфляцыі. Гэта значыць, цэны ў лютым гэтага года параўноўваюцца з цэнамі ў лютым мінулага года. Па такой методыцы падліку інфляцыя ў Беларусі складае 22,7%.

Гэта найбольшы паказчык сярод еўрапейскіх дзяржаў. У наступнай краіне з нестабільнай эканомікай, Сербіі, цэны выраслі на 12,4%. Яшчэ чатыры краіны — Турцыя, Расія, Ісландыя і Венгрыя — маюць гадавую інфляцыю вышэй за 5%. У Еўрасаюзе ў сярэднім цэны за год выраслі на 2%. А ў суседняй Украіне цэны нават зменшыліся. Ну як тут не расчаравацца?

Можна было б казаць пра тое, што нашая інфляцыя кампенсуецца за кошт росту заробкаў, і мы добранадзейна выканалі і перавыканалі гэты паказчык, дасягнуўшы «дакрызіснага» ўзроўню, і нават пераўзышлі яго, забяспечыўшы сярэдні заробак у 500 долараў. Пра гэта распавядалі на кожным скрыжаванні напрыканцы мінулага года. Ала распавядалі дарма.

**Беларускі бюджэт чакаюць новыя выпрабаванні. Надвор'е пакуль адклала пасяўную. Але потым будзе не толькі «бітва за ўраджай», але і падвядзенне вынікаў гэтай бітвы**

Як паведаміла начальнік упраўлення статыстыкі ўзроўню жыцця насельніцтва і абследавання хатніх гаспадарак Белстата Іна Канашонак 19 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску, у 2012 годзе сярэднямесячная зарплата ў Беларусі складала 447 долараў у эквіваленце. Абагналі Беларусь па гэтым паказчыку Расія (859 долараў), Казахстан (678) і Азербайджан (504).

Паводле інфармацыі Канашонак, сярэднямесячная зарплата работнікаў (без уліку работнікаў малых і мікраарганізацый) летась скала 3,7 мільёна рублёў. Найбольшымі тэмпамі рэальная зарплата расла ў сельскай гаспадарцы (за год яна павялічылася на 32%), будаўніцтве (на 27,1%), на транспарце і сувязі (на 26,8%). «Нягледзячы на высокі тэмп росту зарплаты ў сельскай гаспадарцы яе намінальнае значэнне ў 2012 годзе было на 27% ніжэйшым за сярэднерэспубліканскі ўзровень», — заўважыла Канашонак.

У бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў 2012 годзе склала 2,7 мільёна рублёў. І як мы пражылі на такія грошы?

А тым не менш, беларускі бюджэт чакаюць новыя выпрабаванні. Дзякуй Богу, надвор'е пакуль адклала пасяўную, але ад яе мы нікуды не падзенемся. А потым будзе не толькі «бітва за ўраджай», але і падвядзенне вынікаў гэтай бітвы.

Для падрыхтоўкі да рэспубліканскіх «Дажынак» спатрэбіцца каля трыльёна рублёў, паведаміў на прэс-канферэнцыі 18 сакавіка старшыня Гомельскага аблвыканкама Уладзімір Дворнік. Сёлета «Дажынкі» пройдуць у Жлобіне Гомельскай вобласці.

Гэтая сума спатрэбіцца для прывядзення ў парадак усёй інфраструктуры Жлобіна і раёна, а таксама для заканчэння будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнага прызначэння. «У прынцыпе, Жлобін не абдзелены аб'ектамі інфраструктуры — там ёсць усё, што неабходна для нармальнага жыцця, — адзначыў Дворнік. — Таму галоўная задача — зрабіць гэты горад па-сапраўднаму камфортным».

Асноўная частка сродкаў будзе выдзеленая з абласнога бюджэту, заявіў губернатар, бо Гомельскі рэгіён больш за ўсё зацікаўлены ў стварэнні на яго тэрыторыі горада, прывабнага па ўсіх крытэрах. У Жлобіне да «Дажынак» будуць уведзеныя новыя аб'екты — гатэль на 114 месцаў, дзіцячы сад, універсальная зала гульнявых відаў спорту. Будуць добраўпарадкаваныя прывакзальная плошча і аўтавакзал, шэраг вуліц, сацыяльных аб'ектаў і зон адпачынку. Мясцовы краязнаўчы музей перабярэцца ў новы будынак.

Гэта ж проста жах! Мільярд рублёў, каб зрабіць горад камфортным! А калі б Жлобін «быў абдзелены аб'ектамі інфраструктуры», колькі б гэта каштавала падаткаплатнікам? У два, у тры разы больш? Навошта нам такія «Дажынкі» пры такім заробку?

Можа, таму беларусы і імкнуцца з'ездзіць набыць што-небудзь за мяжу?

Як паведамляе Еўракамісія, Беларусь з'яўляецца сусветным лідарам па атрыманні яе грамадзянамі шэнгенскіх візаў. Паводле апублікаванай статыстыкі, на 1000 беларусаў было выдадзена 73 шэнгенскія візы. Гэта самы высокі паказчык у свеце. Колькасць шэнгенскіх візаў, атрыманых грамадзянамі нашай краіны ў 2012 годзе, склала амаль 700 тысяч. А дакладней, 693 425 шэнгенскіх віз катэгорыі «С» і 10 054 віз з абмежаваным тэрытарыяльным дзеяннем.

Па колькасці ўязных дакументаў, выдадзеных грамадзянам нашай краіны, лідзіруе Польшча. У мінулым годзе гэтая краіна забяспечыла візамі 291 827 беларусаў. Літва выдала 193 219 віз, Германія — 65 809. Нізкай з'яўляецца колькасць адмоў, атрыманых пры падачы дакументаў для афармлення візы. У мінулым годзе толькі 0,5 адсоткам грамадзян Беларусі, якія звярнуліся ў пасольства і консульства шэнгенскіх краін, было адмоўлена ў выдачы віз.

Што гэта значыць? Можа, карміць беларусаў трэба лепш, каб яны не «зляталі» ў цёплыя замежныя краіны?

А пакуль беларускія ўлады спрабуюць адміністрацыйна абмежаваць беларусам выезд, альбо, прынамсі, не даваць ходу прапановам зрабіць яго больш вольным.

У Брусэлі быў распаўсюджаны даклад пра гадавыя вынікі праграмы Еўрапейскай палітыкі суседства. У ім адзначаецца, што ў чэрвені 2011 года камісія ЕС прапанавала Беларусі пачаць перамовы па спрашчэнні візавага рэжыму і пагадненні аб рэадмісіі ў інтарэсах насельніцтва ў цэлым. Беларускія ўлады не адгукнуліся на прапанову.

Зразумела, што ўлады не далі адказу. Інакш бы зараз у Нацыянальным аэрапорце «Мінск» вісела заўважная аб'ява: «Хто будзе адлятаць апошнім — не забудзьцеся выключыць тут святло!»

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЦЯПАН ЗАХАРЧАНКА



Беларускі салдат Сцяпан Захарчанка, які самавольна пакінуў вайсковую частку і ўцёк у Літву летам мінулага года, атрымаў палітычны прытулак у гэтай краіне. Раней літоўскія ўлады адмаўляліся прызнаваць яго палітуцекачом.

18 сакавіка стала вядома, што ён атрымаў з Дэпартамента міграцыі афіцыйнае пацверджанне, што яму нададзены палітычны прытулак.

27 ліпеня 2011 года Захарчанка самавольна пакінуў адну з часцей Мінскага гарнізона. Паводле інфармацыі прэс-службы Мінабароны Беларусі, па факце самавольнага пакідання часці распачата крымінальная справа. У ходзе вывучэння акалічнасцяў здзяйснення злачынства ўстаноўлена, што Захарчанка «характарызаваўся вельмі негатыўна, яшчэ да прызыву ў войска неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, у тым ліку за хуліганства і распіванне спіртных напояў у грамадскім месцы». А калегі, па версіі Мінабароны, характарызавалі Захарчанку як «хітрага і выкрутлівага чалавека».

Сам Захарчанка паведаміў, што збег ад збіцця і здзекаў афіцэраў. «Апошняй кропляй, якая перапоўніла маё цярпенне і падштурхнула мяне пакінуць частку і бегчы ў Літву, стаў сход сяржанцкага складу. Сяржантаў батальёна выведкі сабралі, і зампаліт раздаў нам паперу, у якой было напісана, што ў выпадку, калі сілы МУС не будуць спраўляцца з масавымі пратэстамі з боку насельніцтва, то мы бярэм на сябе абавязацельства выканаць любы загад прэзідэнта і адкрыць агонь па грамадзянах краіны, якія пагражаюць канстытуцыйнаму ладу Беларусі», — сказаў Захарчанка.

### ПЁТР ПРАКАПОВІЧ



Былы кіраўнік Нацбанка Беларусі, а цяпер віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч імкліва абрастае новымі функцыямі і паўнамоцтвамі. Саўмін Беларусі сваёй пастановай №186 паставіў Пракаповіча на чале саветаў, камісій і іншых утварэнняў.

Як паведамляе прэс-служба Саўміна, Пракаповіч зараз кіруе Міжведамасным саветам па дзяржаўнай статыстыцы; Камісіяй па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння; Працоўнай групай для падрыхтоўкі прапаноў аб спрашчэнні падатковай сістэмы Беларусі; Каардынацыйным саветам па збліжэнні заканадаўства Беларусі з Міжнароднымі стандартамі фінансавай справаздачнасці; Міжведамаснай камісіяй для каардынацыі работы рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых дзяржаўных арганізацый. Акрамя таго, віцэ-прэм'ер уключаны ў склад Валютна-крэдытнай камісіі Саўміна.

Нагадаем, што яшчэ раней прэзідэнт прызначыў Пракаповіча «глядзяць» за мадэрнізацыяй ва ўрадзе, кіраўніком Савета па развіцці прадпрымальніцтва, прадстаўніком дзяржавы ў «БПС-Ашчадбанку», а таксама прадстаўніком урада для ўдзелу ў пасяджэннях праўлення Нацбанка.

Ці не занадта шмат на аднаго чалавека?

### АЛЕНА ЛАНСКАЯ

Беларуская прадстаўніца на конкурсе маладых выканаўцаў «Еўрабачанне» Алена Ланская зняла кліп на песню «Solayoh», з якой яна паедзе на «Еўрабачанне–2013» у Швецыю. На здымкі ў Стамбул прыехаў Аляксандр Рыбак. Рэжысёрам кліпа выступіў вядомы турэцкі кліпмэйкер Сеналу Коркмаз, над стылем Алены працаваў таксама турэцкі спецыяліст Ондэр Тырыякі, які раней працаваў з Джэніфер Лопес. Аператар быў з Бельгіі.

У выніку ад Беларусі ў Ланской на «Еўрабачанні» будзе толькі візітоўка, здымкі якой таксама завершаны ў Мінску. Толькі здымала гэтую візітоўку, зноў жа, шведская каманда з аператараў і рэжысёраў. Арганізатары конкурсу ў гэтым годзе вырашылі здымаць візітоўкі не ў краіне-гаспадыні, як гэта было раней, а ў кожнай краіне-ўдзельніцы свой ролік. У выніку Ланскую здымалі на веладроме і ў трэнажорнай зале «Мінск-Арэны». Таксама прайшлі здымкі на рэпетыцыі ў прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», у Нацыянальнай бібліятэцы, у раёне Траецкага прадмесця, праспекта Незалежнасці, на манежы Белдзяржцырка і ў музеі рамёстваў «Дудуткі».



▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# БАРАЦЬБА З ЭНТРАПІЯЙ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сяргей НІКАЛЮК

**Сёння праблема навядзення элементарнага парадку ў краіне актуальная гэтак жа, як і дваццаць гадоў таму.**




Чарговую «Азбуку паліталогіі» пачну з галоўнага. У калісьці папулярным тэлевізійным праекце Леаніда Парфёнава пад «галоўным» мелася на ўвазе любоў. Але ў беларускім варыянце і старых, і новых «песень пра галоўнае» спяваюць не пра любоў, а пра стабільнасць. Звернемся, напрыклад, да мінулагодняга паслання адзінага палітыка (АП), у якім слова «стабільнасць» згадвалася 13 разоў. Абмяжуюся адной цытатай: *«Стабильность в обществе и государстве — наша важнейшая ценность. Многие завидуют Беларуси именно потому, что у нас нет раздрая, конфликтов и политических потрясений. Мы этого не хотим. И мы этого не допустим любой ценой».*

Цікава атрымліваецца, пагадзіцеся. Наша стабільнасць — прадмет зайздрасці шмат каго. Аднак падчас прагляду выступаў АП асабіста мяне не пакідае адчуванне, што *«наша важнейшая ценность»* увесь час знаходзіцца ў небяспецы.

З пункту гледжання чыстай тэорыі, нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо стабільнасць і нестабільнасць — гэта два бакі аднаго медаля, і не трэба цешыць сябе: стабільнасць любога грамадства з'яўляецца квазістабільнасцю (ад лацінскага «quasi» — «псеўда», «нібыта»).

Зададзім сабе простае пытанне: «Чым абумоўлена стабільнасць пэўнай сацыяльнай сістэмы — адсутнасцю ўнутраных напружанняў ці іх узаемным ураўнаважваннем?» Знаўцы сацыяльнай псіхалогіі сцвярджаюць, што ўсе сацыяльныя сістэмы з'яўляюцца ўнутрана напружанымі. Таму змены могуць ажыццяўляцца двума спосабамі: за кошт развіцця сіл, якія спрыяюць, або праз паслабленне сіл, якія стрымліваюць пажаданыя змены.

Узгадаем, з якой хуткасць адбыліся змены ў краінах Усходняй Еўропы, пасля таго, як Гарбачоў даў зразумець, што ўводу савецкіх войскаў па чэхаславацкім сцэнары не адбудзецца. Тое, што здавалася стабільным, тут жа прыйшло ў рух. І ніякіх новых сіл для гэтага не спатрэбілася. Яны існавалі на працягу ўсіх паваенных гадоў, проста «новае мысленне» зрабіла прыхаванае відавочным.

## Дэ-юрэ і дэ-факта

Заходнія грамадствы таксама з'яўляюцца ўнутрана напружанымі, але яны навучыліся «каналізаваць» спакусы кардынальных зменаў з дапамогай палітычнай канкурэнцыі. Шматлікія сацыяльныя амартызатары (свабодная прэса, парламент, у якім прадстаўлены інтарэсы розных пластоў грамадства, мітынгі і дэманстрацыі) дазваляюць своечасова фіксаваць і прадухіляць назапашванне дыскамфорту ў грамадстве.

Час рэвалюцый для такіх грамадстваў назаўжды застаўся ў мінулым, бо крытычная маса незадаволенасці не ў стане лакалізавацца ў рэжыме «тут і цяпер». Таму шматмільённыя дэманстрацыі ў сталіцах еўрапейскіх дзяржаў, якія нам перыядычна паказвае тэлеканал «Еўраньюс», — гэта фактар умацавання сістэмы ў цэлым, а не *«раздрая, конфликтов и политических потрясений»*.

На ўмацаванне сістэмы працуюць і крызісы, якія даюць шанец на змены. Безумоўна, плюсы крызісаў зусім не відавочныя, але выключна ў стратэгічным вымярэнні, і на гэтым шляху шараговыя грамадзяне сутыкаюцца з мінусамі бягучых праблем. «Свет не знайшоў іншага спосабу змянення арганізацыі жыцця. Гэта значыць, не бывае так, каб эліты і грамадства абнаўляліся без усведамлення таго, што старая сістэма не працуе. А як усвядоміць, што старая сістэма не працуе? Патрэбны крызіс. Гэта значыць, патрэбна, каб улада страціла падтрымку, неабходны выклік. Сапраўды, эканамічныя праблемы могуць быць карыснымі. І крызіс з'яўляецца, скажам так, штуршком, каб кіроўная эліта ўсвядоміла — трэба штосьці мяняць» (Лілія Шаўцова, палітолаг).

Такім чынам, рэформы на Захадзе з'яўляюцца адказам на палітычны ціск знізу. Права выкарыстоўваць такі від ціску для дасягнення сваіх мэтаў гарантавана грамадзянам Канстытуцыяй.

А зараз перамесцімся ў геаграфічны цэнтр Еўропы, дзе культывуецца ўласнае разуменне дэмакратыі, якое не прадугледжвае механізму зваротнай сувязі паміж грамадствам і ўладай. Дэ-юрэ такі механізм існуе (перачытайце Канстытуцыю), але спробы выкарыстаць яго дэ-факта патрабуюць асабістай мужнасці, бо яны спрэс заканчваюцца вялікімі непрыемнасцямі. Штраф — гэта мінімум, да якога варта быць заўсёды гатовым, перш чым паспрабаваць задзейнічаць канстытуцыйныя механізмы сувязі з уладай.

Ці азначае гэта, што наша ўлада не сумяшчальная з рэформамі? Такую выснову варта прызнаць памылковай. Калі паглыбіцца ў мінулае, то гісторыя нашай улады — гэта гісторыя беспаралынных спробаў як мінімум дагнаць Захад. Крытэры, па якіх неабходна было даганяць, увесь час мяняліся. Сталін даганяў Амерыку па валавой вытворчасці чыгуну і сталі, Хрушчоў — па вытворчасці мяса і малака на душу насельніцтва. Сёння мы даганяем Еўропу па ўзроўню жыцця.

Але, што б ні вызначала ўлада ў якасці крытэру, свой выбар яна рабіла не пад ціскам знізу, а спрабуючы спыніць працэс хаатызацыі ў эканоміцы і грамадстве. Узгадаем, як увосень 2011 года было прынята рашэнне адмовіцца ад адміністрацыйнага рэгулявання курсу беларускага рубля.

## Рубільнік і ўлада

Тут самы час перайсці да паняцця «энтрапія» (ад старажытнагрэчаскага — «ператварэнне», «паварот»). У прыродазнаўчых навуках энтрапія служыць мерай неўпарадкаванасці сістэмы, але і ў навуках гуманітарных гэты тэрмін даўно выкарыстоўваецца. Як ужо было адзначана вышэй, любая сацыяльная сістэма з'яўляецца ўнутрана напружанай, і яе стабільнасць (як правіла, часовая) падтрымліваецца за кошт узаемнага пагашэння цэнтраімклівых і цэнтрабежных сіл.

У прымітыўных грамадствах у якасці асноўнага сродку, які стрымлівае рост сацыяльнай энтрапіі, выступалі традыцыі (рытуалы). Яны паспяхова супрацьстаялі энтрапіі ва ўмовах, калі ўсе ведалі ўсіх асабіста. Аднак сучасныя вялікія грамадствы на асабістых адносінах пабудаваць немагчыма, тут патрэбныя ўніверсальныя (безасабовыя) сродкі. У якасці такіх выкарыстоўваліся і працягваюць выкарыстоўвацца сіла, вера і закон.

Сучасная масавая вытворчасць, якая патрабуе штодзённай каардынацыі высілкаў сотняў мільёнаў людзей, не можа рэгулявацца з дапамогай сілы. Але Еўропу ў XIX стагоддзі таму і страсалі буржуазныя рэвалюцыі, каб сіла і вера саступілі месца закону. Беларусі ў гэтым сэнсе не пашанцавала: яна ўвайшла ў XXI стагоддзе фактычна з сярэднявечнымі суадносінамі антыэнтрапійных сродкаў.

Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што пакуль на Захадзе поўным ходам ідзе засваенне пятага тэхналагічнага ўкладу, які прадугледжвае, у прыватнасці, пераход ад разрозненых фірмаў да адзінай сеткі буйных і дробных кампаній, спалучаных электроннымі сувязямі на аснове інтэрнэту, у Беларусі дзяржпрадпрыемствы заганяюць у жорстка цэнтралізаваныя холдынгі.

У свой час Ленін верыў, што «камунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны». Прааналізуем гэта класічнае вызначэнне камунізму, абапіраючыся на ўяўленне пра ўнутрана напружаныя сацыяльныя сістэмы. Саветы — гэта аналаг веча, аналаг дадзяржаўнага органа самакіравання. Таму спробы саветызацыі (напачатку і ў канцы XX стагоддзя) узмацнялі цэнтрабежныя сілы і прыводзілі да распаду дзяржавы.

Што да электрыфікацыі, дык яе не варта разумець выключна ў тэхналагічным сэнсе. Працэс вытворчасці і размеркавання электрычнай энергіі ў прамысловым маштабе патрабуе цэнтралізацыі. Гэтым ён і спадабаўся Леніну. У каго ў руках рубільнік — у таго і ўлада! Ва ўмовах электрыфікацыі «ўсёй краіны» распыляць свае сілы на кантроль пошты, тэлеграфа і вакзала зусім не абавязкова.

## Сродак для сродку

Холдынгі — гэта наш адказ на інтрыгі цэнтрабежных сіл. Пра тое, наколькі яны эфектыўныя, нам перыядычна распавядае АП. Не так проста знайсці яго выступ на эканамічную тэму, дзе б адсутнічала патрабаванне *«навести элементарный порядок»*.

Звернемся да вытокаў — напрыклад, да дакладу на І Усебеларускім народным сходзе 19 кастрычніка 1996 года: *«Накат удвоился, утроился после того, как я начал наводить элементарный порядок в банковской сфере. Заставил банкиров думать не о спекулятивной прибыли, а об интересах государства и всего народа»*. Прыемна ўсведамляць, што навядзенне элементарнага парадку ў адной з базавых сфер эканомікі было распачата ў Беларусі яшчэ ў 1996 годзе. Распачата, але, мяркуючы па выніках 2011 года, да лагічнага завяршэння так і не даведзена.

А вось зусім свежае выказванне: *«Очевидно, что нужны комплексные и эффективные меры, чтобы «вырвать» отстающие предприятия. От элементарного наведения порядка и дисциплины до реализации проектов по модернизации»*.

Апошні сказ у свой час увагнаў мяне ў ступар. Растлумачу. Калі я вывучаў выступы АП, я лічыў, што дысцыпліну ён разглядаў у якасці сродку для дасягнення пастаўленых мэтаў, у тым ліку і такой фундаментальнай, як навядзенне элементарнага парадку. Нічога незвычайнага ў такім поглядзе на дысцыпліну, зразумела, няма. Дастаткова прыгадаць «Ферму» Джорджа Оруэла: «Дысцыпліна, таварышы, жалезная дысцыпліна! Вось лозунг сённяшняга дня! Варта зрабіць адзін няправільны крок — і ворагі адолеюць нас!»

Такім чынам, дысцыпліна — гэта сродак для навядзення элементарнага парадку. Што ж тады служыць сродкам для навядзення дысцыпліны?

Шматразовае вяртанне да прэс-рэлізу пасяджэння Савета міністраў «Аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь за 2012 год і задачах на 2013 год», у якім прыняў удзел АП, дапамагло мне знайсці адказ на гэта неардынарнае пытанне. Адзіным сродкам для навядзення і падтрымання дысцыпліны ў краіне з'яўляецца… сам АП.

Зразумела, што яго магчымасці стрымліваць энтрапію абмежаваныя (энтрапія — нагадаю — мера неўпарадкаванасці). Абмяжуюся трыма цытатамі з прэс-рэлізу: *«Все застарелые болячки остались там, где и были»*, *«У вас стало правилом — наобещать с три короба, а затем просить о продлении срока»*. *«Я уже устал говорить о необходимости расширения рынков сбыта белорусской продукции»*. Таму мы маем тое, што маем.

РЭПАРТАЖ

# МІЛІЦЫЯ ПАЗБЯГАЕ ІДЭАЛОГІІ, ПРЫВАБЛІВАЮЧЫ РАМАНТЫКАЙ

Дзмітры ГАЛКО

**16 сакавіка адзначылася не толькі «Хаўерам». У гэты ж дзень сталічная міліцыя першы раз за сваю гісторыю правяла ўласны кірмаш вакансій. Яго арганізатары, адмаўляючы праблему з кадрамі, патлумачылі сэнс мерапрыемства жаданнем пашырыць кола суіскальнікаў.**




А таксама, напэўна, хаця пра гэта адкрыта ніхто не казаў, палепшыць грамадскі імідж. Дзяржаўныя сацыялагічныя даследаванні заўсёды паказваюць даволі высокі ўзровень задаволенасці працай беларускай міліцыі і даверу да яе. Здавалася б, няма чаго перажываць з гэтай нагоды. Самі міліцыянты, між тым, яўна сумняваюцца ў пазітыўным стаўленні да сябе з боку грамадства. Інакш лейтматывам кірмашу не стала б фраза: «Пра нас думаюць (гавораць, пішуць), што мы сякія-такія...»

## Усе будуць сядзець

Пачатак мерапрыемства быў прызначаны на дзясятую гадзіну раніцы. На той час «Хаўер» яшчэ не паспеў разгуляцца, таму да будынку Першамайскага РУУС можна было даехаць і дайсці без асаблівых праблем. І адразу ля ганку прымераць на сябе скуру міліцыянта. Без прымусу, па ўласнай ініцыятыве, завітаўшы ў аўтазак, які, так бы мовіць, гасцінна расчыніў свае дзверы для наведнікаў.

«Дзякуй, як-небудзь іншым разам», — падумаў я і рушыў да ўваходу. Шлях адсюль да актавай залы прымусіў адчуць сябе хутчэй арыштантам: пад пільным наглядам відэаапаратара ў цывільным і супрацоўнікаў міліцыі ў позе рукі за спіну праз кожныя дзесяць метраў, моладзь ішла, не рызыкуючы гучна размаўляць. Але не стрымаліся, выбухнулі смехам, калі адзін хлопец адказваў бацьку па мабільнаму: «Я ў міліцыі... Ды не, ты не хвалюйся, усё ў парадку, проста нас сюды прыцягнулі з вучобы лекцыю нейкую паслухаць, ці што. Нічога не здарылася, я табе кажу».

Па наведніках кірмашу, на жаль, немагчыма было вызначыць, каго і з якой прычыны прываблівае служба ў міліцыі. Сюды прыйшлі ў асноўным «па разнарадцы». Салдаты ўнутраных войскаў, роты ганаровай варты, навучэнцы Юрыдычнага каледжа БДУ, Каледжа сувязі ды іншых. Непадробную зацікаўленасць у тым, каб звязаць свой далейшы лёс са службай у міліцыі, мала хто з іх праяўляў. І адчувалі сябе крыху не ў сваёй талерцы. Каля стала, дзе былі выстаўлены крыміналістычныя чамаданчыкі, давялося назіраць анекдатычную сцэнку. Малады чалавек доўга распытваў аб нечым жанчыну-міліцыянта. Тая кажа яму: «Я бачу, вы сапраўды зацікавіліся, давайце я запішу ваша імя і прозвішча, прыйдзеце да нас». Хлопец адразу збянтэжыўся: «Ой, не, лепей не трэба...»

Актавая зала была бітма набітая, у праходзе за апошнімі шэрагамі крэслаў сабралася ўжо некалькі дзясяткаў чалавек, якія стаялі. Тут распарадчык самым клапатлівым тонам сказаў: «У нас ніхто стаяць не будзе!» Галёрка жартам адгукнулася: «Вядома ж, усе будуць сядзець».

## «Міліцыя спатрэбіцца пры любой уладзе»

Нарэшце ўсіх рассадзілі, ахвяраваўшы для гэтага часткай салдат. Як людзі паднявольныя, яны вызвалілі па загаду свае месцы для цывільнай моладзі. Гэта таксама выклікала ўсмешкі ў аўдыторыі. Маўляў, як прыгналі, так і выгналі. Але ж распарадчык палічыў патрэбным запэўніць, што салдат не выгналі, ім таксама ўсё раскажуць і пакажуць, толькі ў іншым месцы. Такі ўзровень клапатлівасці праяўлялі арганізатары, што хоць ты іх да раны прыкладвай. Каб яшчэ і ў штодзённай працы міліцыянты прытрымліваліся тых жа самых стандартаў.

Улічваючы, што ўступную частку мерапрыемства вёў палкоўнік Сяргей Бандарык, начальнік упраўлення ідэалагічнай працы і кадравага забеспячэння, можна было чакаць доўгай і нуднай ідэалагічнай апрацоўкі. Прамовы аб тым, як мы захавалі стабільнасць, а цяпер стаім на варце далейшага непазбежнага росквіту.

І што вы думаеце? Без нуды не абышлося, часам публіка пачынала кляваць носам, аднак ніякай ідэалогіі. Нават калі палкоўнік Бандарык згадаў сайт «Хартыя'97», наракаючы на адмоўны вобраз міліцыянта, які там ствараецца, ён не стаў тлумачыць маладому пакаленню, што гэта ворагі і яны паклёпнічаюць, таму чытаць гэта сайт шкодна для ідэалагічнага здароўя. Гэта было больш падобна да падміргвання: маўляў, я ў тэме, не які-небудзь выкапень мінулай эпохі, сучасны чалавек.

«Я быў у Нагорным Карабаху, іншых гарачых кропках, і не хачу, каб нешта такое паўтарылася ў нас», — гэта было, бадай, адзіным выказваннем палкоўніка Бандарыка, якое ўпісвалася ў традыцыйныя ідэалагічныя схемы. Пры гэтым акцэнт на ім не ставіўся, ён быў зроблены зусім на іншым: «Міліцыя спатрэбіцца пры любой уладзе». Якраз гэтую думку нібыта ілюстраваў прадэманстраваны фільм пра гісторыю сталічнай міліцыі, якая распачалася пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 годзе. Пачалася з таго, што міліцыя разбраіла царскіх паліцыянтаў, узяла пад кантроль найбольш важныя дзяржаўныя ўстановы, забяспечыла ахову мітынгу на Саборнай плошчы (цяпер плошча Свабоды) у гонар звяржэння царызму. У такім пачатку магла прымроіцца нават пэўная крамола... «А мой прадзед служыў у царскай паліцыі», — дадаў палкоўнік Бандарык, каб злучыць перарваную сувязь часоў.

**Апроч стабільнасці, міліцыянту прапануюць шмат розных ільготаў. Самая спакуслівая прапанова — атрымаць жыллё ў сталіцы па льготным крэдыце, у чарзе, якая «ідзе ў дзесяць разоў хутчэй за звычайную»**

Напрыканцы фільма згадвалася «мітынговая дэмакратыя». Зноў-такі, не як дэструктыўная, а проста «новая з'ява». Голас за кадрам ставіў у заслугу міліцыі тое, што не пралілася кроў. Палкоўнік Бандарык таксама падзяліўся сваім асабістым досведам, расказаўшы, як яму даводзілася размаўляць з людзьмі, угаворваць іх стрымліваць эмоцыі, захоўваць спакой. Ні слова пра шкоднасць мітынгаў і неабходнасць ужывання сілы супраць іх у імя стабільнага росквіту.

Разважаючы пра ахову канцэртаў ды іншых масавых мерапрыемстваў, асабісты дагляд і металашукальнікі, палкоўнік ізноў «падміргнуў» моладзі: «Мы ж арыентуемся... вы арыентуецеся на Еўропу. І гэта правільна, я лічу... Правільна, што мы прымаем такія меры, хаця яны і выклікалі спачатку незадаволенасць».

## «Галоўны прывілей міліцыянта — першым атрымаць кулю»

У анонсе міліцэйскага кірмашу вакансій, апроч усяго іншага, было сказана, што тут можна будзе «атрымаць інфармацыю пра сацыяльныя льготы і гарантыі для супрацоўнікаў органаў унутраных спраў». Тым не менш, палкоўнік Бандарык як быццам з усіх сілаў адцягваў гэты момант. Нават тады, калі яго намеснік урэшце прыступіў да сваёй часткі прамовы, прысвечанай ільготам і гарантыям, перабіў яго, каб яшчэ раз сказаць: «Галоўны прывілей міліцыянта — першым атрымаць кулю».

У грамадствах, дзе праваахоўныя органы ўспрымаюцца ў якасці партнёра і надзейнага абаронцы простых грамадзянаў у паўсядзённым жыцці, не маюць іміджу каральнай рукі дзяржавы, яе гумовага дрыну, то бок абаронцы ўладаў, а не грамадзянаў, напэўна, няма патрэбы пазбягаць размовы пра ўзнагароджванне іх працы. Там, дзе міліцыянту даводзіцца замоўчваць гэтае пытанне, відавочна, з сацыяльнай роляй праваахоўных органаў нешта не тое.

Хаця, магчыма, справа не ў высокіх матэрыях, а начальнікі абыходзяць тэму ўзнагароджвання проста таму, што не так ужо ў міліцыі цяпер і мёдам намазана? Між іншым, палкоўнік Бандарык сказаў: «Міліцыянту заўсёды плацілі не так шмат». Канкрэтных лічбаў ён не агучваў. Іх давялося пабачыць толькі ў прапанове Партызанскага РУУС. Міліцыянт патрульна-пастаянай службы, канваір, вадзіцель — заробак ад 3,5 мільёнаў. Інспектар ДПС — ад 4,5 мільёнаў. Оперупаўнаважаны, участковы інспектар — ад 5,2 мільёнаў. «Але гэта стабільная праца. Дзяржава ніколі не кіне міліцыянта», — дадаў палкоўнік Бандарык.

Апроч стабільнасці, міліцыянту прапануюць шмат розных ільготаў. Самая спакуслівая прапанова — атрымаць жыллё ў сталіцы па ільготным крэдыце, у чарзе, якая «ідзе ў дзесяць разоў хутчэй за звычайную». А пакуль тое, атрымліваць кампенсацыю за арэнду кватэры. Амаль два мільёны, калі на сям'ю з трох чалавек. Прыплюсоўванне да адпачынку часу знаходжання ў дарозе. «Калі вы паедзеце адпачываць ва Уладзівасток, атрымаеце 15 дзён». Кампенсацыя за праезд да месца адпачынку па тэрыторыі Беларусі. Бясплатныя санаторна-курортныя пуцёўкі (пасля лячэння) для міліцыянта і яго сям'і. Бясплатны выраб і рамонт (простых) зубных пратэзаў.

Зрэшты, некаторыя надаўнія міліцыянты ананімна скардзяцца ў інтэрнэце: «няма таго, што раньш было». Праца цяжкая, ненармаваная, лепш сям'і не заводзіць, бо яна цябе не ўбачыць, зарплата маленькая, форму і нават канцылярскія прыналежнасці часткова трэба набываць за свае грошы, перад тым, як пайсці ў адпачынак, трэба напісаць некалькі канспектаў, у тым ліку па ідэалогіі, жыллё зараз атрымаць зусім не так лёгка і г. д. Таму нібыта з міліцыі назіраецца адток кадраў. Гэтыя факты складана праверыць, міліцэйскія начальнікі — людзі негаваркія.

Але ці не таму адрадзілася рамантычная рыторыка і адкінуты ідэалагічны складнік, што ідэалогія хутчэй адштурхоўвае моладзь, тады як «пернікаў» істотна паменела? На кірмашы прадстаўнік АМАПу нават журналістаў незалежных СМІ спрабаваў на службу зацягнуць. Нешта ў лесе здохла, як той казаў.

## 31 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.25** Лірычная меладрама «Тры таполі на Плюшчысе» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Камедыя «Каралева бензакалонкі» (СССР).
**13.45** Дакументальны фільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.45** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.00** Прэм'ера. Рамантычная камедыя «Каханне з акцэнтам» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Меладрама «Элегія» (ЗША).
**00.25** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Фільм «Самотная жанчына жадае пазнаёміцца».
**14.05** Фільм «Ты ў мяне адна».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.15** Фільм «Адрачэнцы».

**СТВ**

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Вакол свету за 80 дзён». ЗША-Германія-Ірландыя-Вялікабрытанія, 2004 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Адпачынак за ўласны кошт». СССР - Венгрыя, 1981 г., 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Красуні». Францыя-Вялікабрытанія, 2005 г.
**23.00** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**00.20** Прафесійны бокс.
**01.20** Фільм «Месяц». Вялікабрытанія, 2009 г.
**02.55** «Дурні, дарогі, грошы».

**БЕЛАРУСЬ 2**

**08.05** Таямніца душы.
**08.30** Фільм-казка «Горад майстроў» (Беларусьфільм).
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Альбарутэнія.
**10.55** Пра мастацтва.
**11.25** Лірычная камедыя «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.00** Камедыя «Саша-Сашанька» (СССР).
**15.25** Трансляцыя Велікоднага Паслання.
**16.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.50** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.20** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі.
**23.10** Спорт-кадр.
**23.55** Хакей для ўсіх.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Чорная пазнака».
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Не самы ўдалы дзень».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Месінг. Ванга. Кейсі. Сакрэт празорлівасці».
**16.05** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.35** Тэлесерыял «Байкі Міцяя».
**18.10** Фільм «Марыць не шкодна» (2012 г.).
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.25** Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**16.55** Выратавальнікі.
**17.30** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.35** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Баявік «Марскія д'яблы».
**23.10** «Жалезныя лэдзі».
**00.00** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**МИР**

**05.00** Д/ф «Адна гадзіна ў рускім музеі».
**06.05** М/ф-мы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 02.50** «Даведнік».
**09.40** «Ежа».
**10.10** «Незорнае дзяцінства».
**10.35, 23.35** М/ф «Зачараваны табой».
**14.10** «Практычная магія».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Суд».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.50** М/ф «Чырвоны гатэль».
**03.20** М/ф «Трактарысты».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 12 серыя.
**08.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Без рэтушы: «Забаронены фільм», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.15** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 12 серыя.
**12.40** «Час гонару», серыял: 18 серыя.
**13.30** «Ночы і дні», серыял: 6 серыя.
**14.25** «Дваццаць першая секунда», дак. фільм, 2008 г., Сербія.
**15.25** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.35** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя»: ч. 1.
**16.00** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**17.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.05** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таемная гульня».
**19.50** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Лонданская крама», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Форум (ток-шоў), з архіву праграмы.
**22.45** Фільматэка майстроў: «Вікі Крыстына Барселона», камедыя, 2008 г., ЗША.
**00.20** Відзьмо-невідзьмо: выд. 24.
**00.50** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 604 34 57 Юрый; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

ПРАПАГАНДА

# ШОЎ ЧАВЕСА БЕЗ ЧАВЕСА

Алег НОВІКАЎ

**Пераемнік Уга Чавеса Нікалас Мадура намагаецца адрадзіць культавую праграму «Алё, прэзідэнт», якая была адным з галоўных інстытутаў рэжыму. Апошні раз праграма выйшла ў эфір 29 студзеня 2012 года. Аднак памяць пра шоў жыве дасюль.**




Вось паспрабуйце растлумачыць немцу або французу канцэпцыю праграмы «Алё, прэзідэнт». Англамоўная Вікіпедыя прапануе вельмі мудрагелістую дэфініцыю: «ток-шоў венесуэльскага прэзідэнта Уга Чавеса». Нам жа зразумець, аб чым гаворка, значна прасцей. «Алё, прэзідэнт» — гэта нешта накшталт селектарнага пасяджэння ў Лукашэнкі, толькі штотыднёвае і ў наўпроставым эфіры.

Упершыню «Алё, прэзідэнт» пабачыла свет у 1999 годзе, праз тры месяцы пасля абрання Уга Чавеса на пасаду прэзідэнта. Дырэктар праграмы Тэрэза Маніглія (Teresa Maniglia) задумала стварыць праект, галоўная ідэя якога заключалася ў тым, каб нехта ў форме адказу на тэлефанаванні распавядаў пра ініцыятывы ўраду, яго разуменне тых ці іншых нацыянальных і міжнародных праблем. Але хто? Нечакана ў галаву прыйшла ідэя — запрасіць весці праграму самога Уга Чавеса.

Чавес настолькі ўвайшоў у ролю шоўмэна, што паступова тэлефанаванні адышлі на другі план. У цэнтры тэлеаб'ектываў аказаўся выключна Уга. Прычым ён тлумачыў не толькі курс сваёй адміністрацыі і анансаваў рэформы. Ён дзяліўся з далёкімі ад палітыкі гледачамі прыватнымі думкамі, успамінамі. Так, аднойчы даверліва прызнаўся, што ў школе яго дражнілі «Гуфі», як героя мультфільма Уолта Дыснея. Другім разам з настальгіяй згадаў сваё першае каханне. За словам у кішэню вядоўца не лез, у выразах не саромеўся. Напрыклад, калі пачалася іракская вайна, на ўвесь эфір абазваў Буша-малодшага «алкашом».

У свой час мне давялося быць у Венесуэле і паглядзець праграму «Алё, прэзідэнт». Вось што я запісаў у нататніку адразу пасля пабачанага. «Гэтым разам «Алё, прэзідэнт» цягнулася ўсяго шэсць гадзін. За 360 хвілін Уга выклаў план здабычы нафты, сцёр у парашок латыфундыстаў, правёў селектарную нараду з міністрам адукацыі, уставіў свой «пятак» у філалагічную дыскусію, адкалоў нешта геніяльнае наконт таго, ці трэба ўстаўляць у слоўнікі партугальскія афарызмы, прэзентаваў чыйсьці раман, працытаваўшы найбольш упадабаныя ім кавалкі, агучыў лісты ў сваю падтрымку ад маладых чыканас (эмігранты лацінаамерыканскага паходжання) з ЗША, назваў нейкага мясцовага палітыка «шэльмам». У фінале ў студыю прыпёрся дзіцячы хор, удзельнікам якога было па 5–6 гадоў. Прэзідэнт бухнуўся перад музычным калектывам на калені, падпоўз бліжэй, расцалаваў кожнага хлопчыка і дзяўчынку, а на закуску яшчэ і кіраўніцу калектыву».

На пэўным этапе Чавес пашырыў склад удзельнікаў праграмы — амаль у поўным складзе прывёў у студыю ўрад. Праўда, міністры на сцэну не выходзілі, як правіла, сядзелі за сталом, чакаючы, калі Уга іх згадае. «Алё, прэзідэнт» ператварылася ў рэаліці-шоў з удзелам кіраўніцтва. У прамым эфіры лідар прымаў важныя рашэнні нацыянальнага маштабу. Так, у 2008 годзе падчас аднаго з выпускаў Уга Чавес загадаў міністру абароны падцягнуць танкавыя войскі да мяжы з Калумбіяй, якая абвінавачвала Каракас у падтрымцы партызанскай барацьбы на калумбійскай тэрыторыі. Другім разам камандантэ забараніў продаж «Кока-Колы» ў сталіцы.

Часта на праграму запрашаліся вядомы персоны. Напрыклад, прэзідэнты Лула да Сільва (Бразілія), Эва Маралес (Балівія), Крысціна Фернандэс Кіршнер (Аргенціна). Фідэль Кастра выходзіў на сувязь з Гаваны амаль рэгулярна.

Паступова змянілася і дыслакацыя студыі. Вельмі часта праграмы рабілі выязнымі — з нейкіх вёсак, бедных прыгарадаў, з так званых «балiварскіх місій» — сацыяльна-культурных комплексаў, якія будаваліся ўрадам у бедных кварталах. Часам праграмы вяліся з-за мяжы — з Кубы, Балівіі.

Сказаць, што праграма карысталася грамадскім інтарэсам, нічога не сказаць. Яна хутка стала самым важным прапагандысцкім падмуркам створанай Уга дзяржаўнай сістэмы. «Чавес мае дзве мэты са сваім «Алё прэзідэнт», — адзначаў у сваім даследаванні спецыяліст па Венесуэле. — Адной мэтай з'яўляецца падтрымка пастаяннага кантакту з масамі, другой — даць сваім прыхільнікам інструкцыі, што рабіць. Гэта момант, калі Чавес слухае пульс народу, адчувае, што ён думае. Гэта вялізарнае мастацтва камунікацыі».

Прычым, заўважым, што да экранаў спяшаліся ў нядзелю аб 11-й гадзіне раніцы як фанаты Чавеса, так і яго апаненты — настолькі таленавітым шоўмэнам быў Уга. Гледачоў зусім не палохала, што ў сярэднім праграма «Алё, прэзідэнт» цягнулася каля шасці гадзін (рэкорд — восем гадзін). Чавес нават задумваў праграму на 4 дні ў фармаце тэлемарафона, аднак пасля адмовіўся ад гэтай ідэі.

Не маючы магчымасці паслабіць інтарэс гледачоў да шоў, апазіцыя абвінавачвала ўладу ў тым, што тая за кошт «Алё, прэзідэнт» парушае закон аб грамадскіх СМІ, фактычна манапалізуе іх. Улада ў адказ забрала ліцэнзію ў аднаго з апазіцыйных каналаў, якіх, дарэчы, па колькасці больш, чым грамадскіх. Пратэсты заціхлі.

Апаненты Чавеса паспрабавалі нівеляваць прапагандысцкі поспех Чавеса праз тэлефанаванні ў студыю з няздручнымі для таго пытаннямі. Так, дыджэі адной з кубінскіх антыкастраўскіх радыёстанцый у Маямі «нарэзалі» фраз Фідэля Кастра з яго размовы з прэзідэнтам Мексікі і дамагліся злучэння са студыяй прэзідэнта Венесуэлы, прыкінуўшыся кубінскімі тэлефаністамі. Адбыўся такі дыялог: «Алё, Фідэль?» — сказаў Чавес. «Атрымаў ты мой ліст?» — спытала трубка голасам лідара кубінскай рэвалюцыі. «Так, усё атрымаў, усё ў парадку», — адказаў прэзідэнт Венесуэлы. «Я гатовы супрацоўнічаць з табой», — сказаў нібыта Фідэль. Пасля гэтага дыджэй спыніў запіс і закрычаў у трубку: «Прэч з Венесуэлы!» Пазней гэты жарт каштаваў амерыканскай радыёстанцыі 4 тысяч долараў штрафу.

З 2000 года пачалася спадарожнікавая трансляцыя праграмы. Некаторыя суседнія прэзідэнты скралі канцэпцыю «Ало, прэзідэнт», каб стварыць свае аналагі. Першым гэта зрабіў эквадорскі лідар Рафаэль Карэа. За ім — Эва Маралес. Лацінаамерыканскія журналісты, якія працавалі ў Маскве, сцвярджалі, што Пуцін пазычыў шмат чаго ў Чавеса падчас распрацоўкі фармату праграмы «Размовы з Пуціным».

Хвароба Уга Чавеса не дазволіла яму па шэсць гадзін выступаць перад камерамі. І з лютага мінулага года шоў перастала выходзіць у эфір. Адвочная роля, якую праграма адыгрывала ў мабілізацыі электарату Чавеса, прымушае пераемнікаў Уга думаць, як забяспечыць яе працяг, або, як мінімум, яе аналаг.

16 сакавіка на венесуэльскім тэлебачанні адбылася прэзентацыя новай праграмы пад назвай «Баліварскі дыялог». Вядзе «Баліварскі дыялог» новы лідар краіны Нікалас Мадура, афіцыйны кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах 16 красавіка.

Мяркуючы па першых водгуках, публіка ўспрыняла праграму вельмі асцярожна. Адзін з каментатараў піша: «Мадура выглядае як хлопчык у ценю тытана. Ён намагаецца трымацца, як Чавес, аднак гэта копія без харызмы. Мадура ніколі не зможа замяніць вялікую асобу, якая пайшла з жыцця. Ён здольны хіба толькі сыграць ролю першай лэдзі». На самай справе, як можа апаратчык скласці канкурэнцыю Чавесу, чый стыль вядучага выклікаў зайздрасць нават у самых славутых шоўмэнаў, здольных сваімі маналогамі давесці аўдыторыю да трансу.

Адсутнасць у эфіры шоў «Алё, прэзідэнт», якое забяспечвала сталы кантакт рэжыму з масамі, — яшчэ адзін з фактараў, які адвочна прывядзе да трансфармацыі мадэлі венесуэльскага рэжыму.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Калі Аляксандр Лукашэнка кажа пра тое, што ёсць праблема, якую можна вырашыць толькі ў фармаце Дзяржсавета Саюзнай дзяржавы, ён намякае на тое, што для краін, якія знаходзяцца ў адной дзяржаве, прадстаўленне крэдыту не можа быць праблемай. Больш за тое, не можа быць праблемай не проста крэдыт, а танны і доўгі крэдыт. Зрэшты, расійскія перагаворшчыкі так не лічаць. Умовы крэдытаў, якія Аляксандр Лукашэнка атрымліваў ад Расіі раней, не былі выкананы Беларуссю. Цяпер прадстаўленне крэдыту абумоўлена неабходнасцю пачаць у Беларусі маштабную прыватызацыю дзяржпрадпрыемстваў, і няма ніякай упэўненасці, што Аляксандр Лукашэнка не супакоіцца з гэтай нагоды, як толькі атрымае патрэбныя 2 мільярды долараў.

**«СЛОН» (Расія)**

Транзіт улады ў аўтакратыі з'яўляецца сур'ёзнай праблемай. Але Лукашэнка, падобна, пакуль не вельмі непакоіцца на гэты конт. І адсутнасць палітычных альтэрнатыў свайму праўленню тлумачыць тым, што «пакуль дзеючая постаць моцная». З такім поглядам на рэчы пра пераемніка і перадачу ўлады сур'ёзна задумвацца складана: Лукашэнка ўсё яшчэ лічыць, што ён — усур'ёз і надоўга. А там, можа, і сапраўды сын падрасце ці іншая годная змена.

**Полит.ру (Расія)**

Усведамляючы ўласную значнасць у праектах Крамля, Мінск спадзяецца на крэдыт і з выкананнем абяцанняў не спяшаецца, таму для кіраўніцтва Беларусі любы мемарандум — не больш чым нататка на памяць. На ўпэўненую заяву Пуціна аб пачатку фармавання холдынгу «Расбелаўта» на базе расійскага КамАЗа і беларускага МАЗа Лукашэнка адказаў фразай аб краінах-саюзніцах, якія «ў гэтым годзе скажуць слова па ўсіх напрамках». Але ніякія расійскія крэдыты, адкрыты рынак з Расіяй, і нават продаж дзяржуласнасці, як гэта было з «Белтрансгазам», без рэформаў не выведуць эканоміку Беларусі з крызісу. У беларускага кіраўніка застаецца ўсё менш рычагоў уплыву на развіццё сітуацыі ва ўласнай краіне.

**Deutsche Welle (Германія)**

Міністэрства эканомікі Беларусі афіцыйна пацвярджае, што тавар за мяжой прадаецца танней, чым дома. Паводле прагнозу балансавых паказчыкаў развіцця беларускай эканомікі, што апублікаваны Нацыянальным прававым інтэрнэт-парталам, у 2013 годзе беларускія прадукты за межамі Беларусі былі танней, чым шматлікія групы айчынных тавараў. Прэзідэнт Лукашэнка не аднойчы тлумачыў беларусам, што замежны рынак харчавання прыносіць краіне валюту і здольны прыняць яшчэ больш беларускага тавару... На думку шэрагу эканамістаў, адносная таннасць беларускага тавару на знешніх рынках «кампенсуецца» вытворцам за кошт унутраных коштаў на розныя групы тавараў і паслуг.

**BBC (Вялікабрытанія)**

Парадаксальна, адзначаюць эксперты, што сёння ў Варшавы лепшыя адносіны з Масквой, чым з Мінскам. Але самы крытычны перыяд і самая нізкая кропка ў адносінах яшчэ, мабыць, не пройдзеныя. Таму шукаць адказы на галоўныя пытанні нявыкарыстанага суседства Польшча—Беларусь зараз бессэнсоўна.

**Delfi.lt (Літва)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КЫРГЫЗСТАН. УДАР ДЛЯ АМАТАРАЎ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

Сапраўдны ўдар для аматараў адраджэння Расійскай імперыі зрабіла пастанова аб унясенні зменаў у закон «Аб дзяржаўнай мове Кіргізскай Рэспублікі», якую падпісаў прэм'ер-міністр краіны. Паводле закону, забаронена выкарыстанне рускай мовы ў справаводстве. Аналагічныя па змесце папраўкі да закона «Аб афіцыйнай мове» падпісаў у пачатку сакавіка прэзідэнт краіны Алмазбек Атамбаеў. Рускія нацыяналісты не знаходзяць сабе месца ад навіны і заклікаюць да помсты. Адзін з патрыятычных сайтаў піша: «Падобныя дзеянні кіргізскіх уладаў ставяць перад расійскай грамадскасцю сур'ёзнае пытанне аб мэтазгоднасці любой далейшай інтэграцыйнай дзейнасці з гэтай маленькай, але празмерна ганарлівай сярэднеазіяцкай рэспублікай». Галоўным чынам заклікаюць Крэмль заблакаваць працэс далучэння Кыргызстану да Мытнага саюзу. Цікава, што на фоне абвастрэння кіргізска-расійскіх адносін зноў ўсплыло імя Курманбека Бакіева — былога прэзідэнта Кыргызстану, які хаваецца ў Мінску. На форумах некаторыя нацыяналісты ўзгадваюць, што Бакіеў у свой час прытармазіў працэс абмежавання сферы ўжывання рускай мовы. У сувязі з гэтым яны лічаць, што Масква павінна падтрымаць вяртанне Курманбека да ўлады, каб у будучыні не даць Кыргызстану выйсці з-пад культурнага ўплыву Масквы.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. СЦЯГ КАЗАКОЎ ЗАМЕСТ ДЗЯРЖАЎНАГА

Выданне «Сегодня», якое лічыцца нефармальнай трыбунай Партыі рэгіёнаў, выступіла з новай ідэяй, накіраванай на змену існуючай дзяржаўнай украінскай сімволікі. Газета прапануе адмовіцца ад цяперашняга жоўта-блакітнага сцяга на карысць сцяга малінавага колеру, які выкарыстоўвалі запарожскія казакі Багдана Хмельніцкага. Жоўта-блакітны сцяг, на іх думку, паходзіць ад герба Львова — жоўты леў на сінім фоне — і не цягне на сімвал усіх украінцаў. Дарэчы, падобныя прапановы агучваліся ў часы Перабудовы. Праўда, Партыя рэгіёнаў гатовая на кампрамісы. Тая ж самая газета прапануе для пачатку перавярнуць сцяг, каб жоўты быў зверху, а сіні знізу. Так украінскі сцяг выглядаў да 1918 года, калі да ўлады прыйшоў гетман Скарападскі. Што хаваецца за гэтай арыгінальнай ініцыятывай, цяжка сказаць. Застаецца дадаць, што раней бела-блакітныя (фарбы Партыі рэгіёнаў) заявілі, што існуючы ўкраінскі гімн «Щэ не вмерла Україна» занадта сумны, і яго трэба замяніць на больш аптымістычную мелодыю.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. БУДЗЕ ПРЫТУЛАК ПІРАТАМ?

Як вядома, кіраўніцтва Паўночнай Карэі даўно думае, як зрабіць брыдасць Захаду. І вось, здаецца, прыдумала. На мінулым тыдні ў інтэрнэце з'явілася плётка пра тое, што Пхеньян гатовы даць прытулак сайту The Pirate Bay. The Pirate Bay — у мінулым адзін з самых вядомых сайтаў для вольнага абмену файламі. Іншымі словамі, праз яго можна было пампаваць аўтарскія ліцэнзійныя праграмы і прадукцыю. Сайт у зеніце сваёй актыўнасці быў 75-м па папулярнасці сайтам на планеце. У 2009 годзе супраць The Pirate Bay з падачы некаторых музычных кампаній была распачата крымінальная справа, якая закончылася турэмным прысудам для яго арганізатараў. І вось цяпер паўночныя карэйцы, быццам, гатовыя аднавіць дзейнасць сайта ў сваім сегменце інтэрнэта, прычым пад патранатам дзяржавы. Навіна прымусіла музычных прадзюсараў, дырэктараў крамаў, якія гандлююць аўтарскімі дыскамі, пацягнуцца за аспірынам. Аднак хутка стала вядома, што стваральнікі The Pirate Bay, якія засталіся на свабодзе, нічога пра гэту ініцыятыву не чулі. Прэса мяркуе, што плётку пра The Pirate Bay запусцілі самі ўлады КНДР.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. КАРЛА БРУНІ АДПОМСЦІЛА ЗА МУЖА ПЕСНЯЙ



Карла Бруні, спявачка, жонка французскага экс-прэзідэнта Ніканя Сарказі, прыдумала, як адпомсціць Франсуа Аланду, які перамог яе мужа на прэзідэнцкіх выбарах. Яна запісала песню «Raymond» (Раймонд), у якой ёсць словы: «Раймонд і яго жонка не хаваюць таго, што не паважаюць пінгвіна». З улікам таго, што Раймонд — мянушка Сарказі, зразумела, што «пінгвін» — гэта Франсуа Аланд. Прынамсі так дружна мяркуе французская прэса. Між тым, сама Карла Бруні кажа, што песня прысвечаная людзям з нейкімі фізічнымі праблемамі і не мае ніякіх алюзій на дзеючага прэзідэнта. У гэта мала хто верыць, тым больш, што ў Карлы ёсць і асабістыя матывы не любіць Франсуа. Яна, элегантная дама з добрым густам, была шакаваная стылем Аланда і яго сяброўкі Валеры. Правая апазіцыя, між тым, ва ўсю рэкламуе запіс Бруні, у той час як сацыялісты кажуць, што творчасць былой першай лэдзі нікому ўжо не цікавая. Так ці інакш, байцоўскі жэст Карлы сведчыць, што яе муж таксама гарыць жаданнем помсты за правал на прэзідэнцкіх выбарах. Прэса зноў пачала спрачацца наконт магчымай даты, калі Ніканя вернецца на палітычную авансцэну.

**Паводле французскай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА



# ПАЗЛ ПАД НАЗВАЙ РАСІЯ

**Алег НОВІКАЎ**

**Новы тэрытарыяльны канфлікт паміж Інгушэціяй і Чачнёй дае падставу ўзгадаць падобныя спрэчкі паміж іншымі адміністратыўнымі адзінкамі Расійскай Федэрацыі.**

Нагадаем, што ў пачатку сакавіка кіраўнікі Інгушэціі і Чачні абмяняліся супрацьлеглымі поглядамі на пытанне чачэна-інгушскай мяжы. Яны не могуць падзяліць вёску Аршты.

Аказваецца, ідэі перагляду ўнутраных кардонаў вельмі актуальныя ў розных частках РФ. І больш таго, вельмі часта менавіта этнічныя рускія становяцца каталізатарамі міжэтнічнай дэстабілізацыі і памежных канфліктаў. У некаторых аўтаноміях кампактныя групы рускамоўнага насельніцтва заклікаюць да ператварэння рэгіёна, дзе яны кампактна пражываюць, у звычайную вобласць РФ. Такія заклікі чуваць у Майкопе (Адыгея), Саянагорску (Хакасія), Набярэжных Чаўнах і Бугульме (Татарстан). З Бугульмай найбольш цікавая сітуацыя. Паколькі ў горадзе знаходзіцца турэмны цэнтрал, татарскія нацыяналісты падаюць пратэсты рускамоўных як бунт зэкаў. Пры гэтым «сепаратысты» ахвотна выкарыстоўваюць такі прававы інструмент, як нацыянальна-культурная аўтаномія. Праўда, да гэтага часу ніводная група этнічных рускіх, якія пражываюць у аўтаноміях, такога статусу не атрымала.

Наступная група аматараў рэвізіі межаў — народы, якія былі выселены Сталіным у 1944 годзе. Пры Хрушчове ім дазволілі вярнуцца, і нават адрадзілі іх аўтаноміі, аднак у меншым памеры. Найбольш вядомае патрабаванне інгушоў — вярнуць прыгарадны раён Уладзікаўказу, які пасля дэпартацыі 1944-га і ліквідацыі Інгушскай аўтаноміі быў уключаны ў склад Паўночнай Асеціі. Акрамя таго, вяртання да межаў 1944 года патрабуюць карачаеўцы, калмыкі, кабардзінцы.

Няпростую сітуацыю на Паўночным Каўказе робіць яшчэ больш складанай амбіцыі нагайцаў і лезгінаў атрымаць хоць нейкія элементы дзяржаўнасці. Каб задаволіць такія намеры, трэба крамсаць тэрыторыю Дагестана, дзе часткова пражываюць згаданыя этнасы.

Казахскія нацыяналісты спісваюць нежаданне Масквы даць аўтаномію нагайцам на гістарычныя нагайска-казахскія сувязі. Пасля таго, як у XVIII стагоддзі нагайцаў западозрылі ў кантактах з Турцыяй, пачалася зачыстка нагайскага стэпу. Нагайцы выратаваліся за кошт масавай эміграцыі на казахскія прасторы. У Астане неадназоразова ўздымалася пытанне фінансавання нагайскіх культурных і адукацыйных праектаў, выдачы грантаў на вучобу нагайскай моладзі ў Казахстане і г.д. Безумоўна, калі б у нагайцаў была свая адміністрацыя, інтэнсіўнасць такіх кантактаў была б значна большая, што наўрад ці спадабалася б Крамлю.

Яшчэ больш складаная сітуацыя з лезгінамі. Іх каля 800 тысяч, і яны не маюць сваіх дзяржаўных установаў па абодва бакі азербайджана-расійскай мяжы. Мяжа гэта абсалютна штучная. Яна ўзнікла ў 1919 годзе, калі Леніну быў патрэбны мір з азербайджанскімі нацыяналістамі. Савецкая Расія пагадзілася на схему размежавання па формуле Баку, якая цалкам ігнаравала інтарэсы лезгінаў. Пасля таго, як Закаўказзе стала савецкім, лінію паміж РСФР і Азербайджанскай ССР вырашылі пакінуць так, як яна ёсць. Між тым, апошнія падзеі даюць лезгінам шанец зноў надаць лезгінскаму пытанню актуальнасць. Ачагом апошніх пратэстаў супраць рэжыму Аліва з'яўляецца лезгінскі горад Ісмаілы.

Хацела б аб'яднацца з замежнымі суайчыннікамі і частка бурацкага палітыкуму. Яны фантануюць ідэямі стварэння адзінай бурацка-мангольскай канфедэрацыі. Праграма-мінімум для іх — аднавіць Бурацкую аўтаномію ў межах 1933 года. Менавіта тады ў выніку кампаніі супраць т.зв. панмангольцаў аўтаномію падзялілі на пяць частак. Адарваныя ад рэспублікі дзве акругі, а таксама два раёны, перайшлі ў падпарадкаванне Іркуцка і Чыты.

Самая парадаксальная сітуацыя — з асецінамі, якія таксама мараць пра адзінства. Але паколькі Расія прызнае Паўднёвую Асецію суверэннай, апошняя не можа ўвайсці ў склад Паўночнай Асеціі. У такім выпадку вайна 2008 года з Грузіяй выглядала б з боку Расіі не актам гуманітарнай дапамогі асецінам, а вайсковай аперацыяй з мэтай анексіі грузінскіх зямель.

Існуюць сепаратысцкія настроі, арыентаваныя на тое, каб, захаваўшы аўтаномію, перайсці ў склад іншай дзяржавы. Так, у 2010 годзе ФСБ Карэліі распачало крымінальную справу па факце распаўсюду ўлётак з наступным тэкстам: «Улады Расійскай Федэрацыі паказалі сваю поўную непераканаўчасць. Народ Карэліі не павінен пакутаваць пад ярмом вертыкальнай улады карумпаваных чыноўнікаў. Гэтыя хабарнікі і злодзеі трымаюцца толькі дзякуючы падтрымцы шпаны з Крамля. Адзіны спосаб выжыць — гэта аддзяліцца ад Расіі і прасіць Фінляндыю прыняць нашу рэспубліку ў склад Суомі».

У самой Фінляндыі ідэю далучэння Карэліі падтрымліваюць далёка не ўсе, а толькі прыкладна шостая частка насельніцтва.

Асобная і абсалютна не звычайная міжэтнічная сітуацыя — у Рэспубліцы Мардва. Тут незадаволеныя эрзяне, якія лічаць, што іншы мардвінскі клан, макшане, захапіў усю ўладу і праводзіць курс на асіміляцыю эрзянаў. А тым часам макшанская і эрзянская мовы ў рэспубліцы выкладаюцца факультатыўна з-за дамінавання рускай. Дарэчы, эрзянскія нацыяналісты лічаць сябе не толькі гіпербарэйцамі, аднак і сапраўднымі заснавальнікамі рускай дзяржавы.

Яшчэ некалькі тэрытарыяльных праблем не адносяцца ні да адной з названых катэгорый. Напрыклад, тувінцы патрабуюць вяртання ім перададзеных Манголіі ў 1958 годзе 2 тысяч квадратных кіламетраў тэрыторыі.

Як бачым, тэрытарыяльных праблем у Расіі хапае. Можна было б іх закансерваваць, аднак вопыт СССР падказвае, што такая практыка можа быць фатальнай. Што рабіць? Пакончыць з нацыянальным пытаннем прапануюць па-рознаму. Так, частка маскоўскай палітычнай эліты выступае за ліквідацыю нацыянальна-аўтаномных суб'ектаў, паколькі наяўнасць аўтаномій стварае глебу для нацыяналізму і сепаратызму. На лагічнае пытанне тых жа татар, якія гарантыі будуць у татарскай мовы і культуры ў выпадку прававой уніфікацыі ўсіх суб'ектаў РФ пад стандарт губерні, гучыць прыкладна такі адказ: на руінах аўтаномій узнікне «новая этнасацыялагічная мадэль». Што гэта такое, цяжка зразумець. Таксама няма яснага адказу на пытанне, ці не скончыцца насаджэнне «новай этна-сацыялагічнай мадэлі» ўсплёскам сепаратызму?

З улікам культурна-сацыяльнай разнастайнасці насельніцтва Расіі і з-за непрадказальных варыянтаў адаптацыі пастаноў цэнтру на месцах, кожная прапанова наконт канчатковага вырашэння нацыянальнага пытання падобна да ідэі рызыкоўнага эксперыменту. Таму наўрад ці мы пабачым у гэтай сферы нейкія кардынальныя рэформы. Усё ціха будзе тлець, пакуль не выбухне.

З НАГОДЫ

# ХТО БАІЦЦА ПАПУ-ЕЗУІТА?

Алег НОВІКАЎ

**Абранне першага ў гісторыі Папы-езуіта выклікала ў прэсе мноства спекуляцый наконт сапраўдных працэсаў у Ватыкане.**



Нават калі б новы Папа Францыск быў абсалютна белы і пухнаты, да яго ўсё роўна ставіліся б падазрона. Хорхе Марыя Бергольё — езуіт. Гэтым словам сказана ўсё. У заходнім грамадстве слова «езуіт» аўтаматычна выклікае асацыяцыю з нейкім сакрэтным ордэнам, што займаецца цёмнымі палітычнымі інтрыгамі па прынцыпу «мэта апраўдвае сродкі».

Крыніцы такіх забабонаў варта шукаць у трэндах масавай свядомасці ў часы сярэднявечча. У той час, і асабліва ў часы рэфармацыі, добра адукаваныя і цалкам адданыя каталіцкай веры езуіты атрымалі добрую рэпутацыю сярод еўрапейскіх манархаў. Езуітаў ахвотна дапускалі да каралеўскіх двароў і пасвячалі ў самыя тайныя дзяржаўныя справы. Сярод простых людзей такі «ліфт» заснаванага Інгацiем Лаёлам у 1534 годзе ордэна часта тлумачыўся мастацтвам езуітаў плесці інтрыгі і займацца банальным зборам кампрамату, які, быццам, дапамагаў ім трымаць пад кантролем моцных гэтага свету.

Аднак у XVI–XVII стагоддзях паміж палітычнымі элітамі на месцах і езуітамі прабегла чорная котка. Праграма ордэна — стварэнне ўніверсальнай імперыі пад кіраўніцтвам Рымскага Папы — супярэчыла мадэлі абсалютызму, які ствараўся ў Еўропе. Шмат дзе ўлады і езуіты дасварыліся нават да таго, што апошнія пачалі арганізоўваць акты індывідуальнага тэрору супраць ненавісных манархаў.

Безумоўна, гэта вайна не абышлася без добрай порцыі чорнага піяру. Дзяржаўная паліт-прапаганда ахвотна ўжывала і папулярызавала страшылкі пра езуіцкую змову. Калі іх не хапала, жахі прыдумлялі самі. Так на свет з'явіўся фальшывы кодэкс езуітаў «Monita secreta», які інструктаваў сябраў арганізацыі не стрымлівацца, калі гаворка ідзе пра інтарэсы ордэну.

Паступова ў мазгах крытыкаў ордэну сфармавалася новая магістральная тэма: езуітаў пачалі вінаваціць у тым, што яны прадалі хрысціянскую веру. Не абышлося без антысемітызму. Паколькі частка заснавальнікаў ордэну паходзіла з іспанскіх яўрэйскіх сямей, якія прынялі хрысціянства, езуітаў хутка запісалі ў прыхільнікі яўрэйскай змовы. Парадокс у тым, што сучасныя гісторыкі разглядаюць езуітаў як піянераў арганізаванага антысемітызму. З 1592 па 1946 гады ў шэрагі ордэна не прымалі асобаў з ліку так званых «новых хрысціян» — людзей з ахрышчаных яўрэйскіх і мусульманскіх сем'яў.

Ад антысемітызму быў адзін крок да таго, каб выставіць езуітаў масонамі, тампліерамі, ілюмінатамі і іншымі аматарамі ідэі падпарадкаваць усю планету невялікай купцы абраных — канцэпцыя так званага Новага сусветнага парадку.

Праўда, і апаніруючы бок таксама не вельмі цырымоніўся з фактурай у прапагандысцкай вайне. Так, землятрус 1755 года ў Лісабоне езуіт, аўтар памфлету, спісаў на святое пакаранне, якое неба паслала на партугальскага караля, што выгнаў езуітаў з Партугаліі.

У выніку ў гэтай барацьбе верх узялі манархі. У 1773 годзе пад ціскам Бурбонаў Папа Клімент XIV распусціў ордэн. Аднак, як толькі атмасфера ў Еўропе змянілася, у 1814 годзе, калі паўсюль панавала рэакцыя, арганізацыю адрадзілі. Адначасова рэанімаваўся і антыезуіцкі міф.

Напэўна, апошняя буйная кампанія супраць езуітаў мела месца ў Германіі ў часы Культуркампфа (барацьбы за памяншэнне ўплыву Ватыкана на нямецкую палітыку). Канцлер Бісмарк актыўна спрыяў антыезуіцкай паранойі. Так, сябрам ордэну, паводле прынятых тады законаў, нават забаранялася мець нерухомасць у Германіі. Таксама не любілі езуітаў нацысты, якія баяліся іх уплыву на вучэбны працэс. Аднак маштабу Халакосту антыезуіцкая кампанія ў гітлераўскай Германіі не набыла. Нацысты абмяжоўваліся брашурай пра тое, што езуіты — Volksschadlinge (ням.: шкодныя для народу).

Хаця напрыканцы XIX стагоддзя істэрыка вакол пагрозы езуітаў пачала сціхаць, антыезуіцкі міф існуе дасюль. У свеце хапае аматараў шукаць след нашчадкаў Лаёлы. Так, езуітаў абвінавачвалі ў тым, што яны штучна патапілі «Тытанік» (капітан «Тытаніка» быў сябрам ордэну) з мэтай не дапусціць, каб адзін з яго пасажыраў — банкір — перашкодзіў стварэнню Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША, якая з часам стала адным са слупоў глабальнай фінансавай сістэмы (частка плану Новага сусветнага парадку).

Вобраз езуіта ў цяперашняй масавай культуры стабільна адмоўны. Дастаткова згадаць скандальны раман «Код да Вінчы», дзе галоўнымі ворагамі выжыўшых родзічаў Ісуса Хрыста выступаюць тыя самыя езуіты. Для таго, каб давесці, мякка кажучы, неадэкватнасць сяброў ордэна, аўтар Дэн Браўн ахвотна смакуе сцэны, калі вернікі ўціхамірваюць сваю плоць з дапамогай розных бізуноў і іншых гаджэтаў.

Таму, як толькі ў Ватыкане сказалі: «Habemus papam» («Маем Папу»), і гэты новы Папа аказаўся езуітам, адразу шматлікія жоўтыя выданні кінуліся шукаць сляды езуіцкай канспірацыі. Першае, што яны зрабілі, — прыцягнулі за вушы абранне Папы Рымскага і легенду пра так званага Чорнага Папу. Паводле аднаго прадказання, апошнім Папам будзе нехта Чорны Папа. Пасля яго Каталіцкая царква, быццам, знікне. Такі сцэнар, калі верыць жоўтай прэсе, чамусьці вельмі карысны для езуітаў.

Здавалася б, якое дачыненне да прадказання пра Чорнага Папу мае беласкуры Хорхе Бергольё? Адсутнасць у новага Папы Рымскага чорнай скуры журналістамі вырашаецца проста — за кошт аналізу прадметаў гардэробу. Высвятляецца, што аргенцінскі кардынал раней часта служыў імшы ў чорнай расе. Такім чынам, ён і ёсць Чорны Папа. Вось такая арыгінальная логіка. Калі версія падаецца вам слабай, аматары забабонаў гатовы прапанаваць іншую. Адольфа Нікалас, генерал ордэну езуітаў, па статуту носіць чорнае адзенне, за што мае мянушку «Чорны Папа».

Між тым, большасць аналітыкаў іранічна ўспрымаюць версію пра тое, што езуіты маглі ўплываць на выбары Папы. Хаця б таму, што, акрамя Бергольё, толькі адзін удзельнік канклаву быў сябрам ордэну. Італьянскі каталіцкі гісторык Альберта Мелоні ў інтэрв'ю французскай газеце «Le Monde» дае наступную характарыстыку цяперашняга стану ордэну езуітаў: «Гэта вялікая сям'я, дзе хапае ўсяго патроху — вялікіх кансерватараў і вялікіх рэфарматараў».

Дастаткова сціпла адрэагаваў і сам ордэн на абранне свайго сябра Папам. На сайце езуітаў проста дзякуюць Богу за тое, што даў свету новага Папу, і вельмі цешацца з таго, што Папа, абраўшы імя Францыск у гонар Святога Францыска (заснавальніка жабрацкага ордэну), падкрэсліў ідэнтыфікацыю царквы з простымі людзьмі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЛЕХ ВАЛЕНСА



Былы лідар прафсаюзу «Салідарнасць», экс-прэзідэнт Польшчы, даўно намагаецца рабіць усё, каб падвысіць свой рэйтынг. Палітык выступіў з цэлай серыяй вербальных атак на геяў, дзякуючы чаму зноў стабільна прапісаўся на старонках вядучых СМІ. Самай эфектнай аказалася яго заява наконт геяў, якія маюць мандаты дэпутатаў Сейму. Ён прапануе выдзеліць для іх нейкую рэзервацыю ў парламенцкай залі, дзе яны будуць засядаць «як за сцяной». Былы лідар «Салідарнасці» таксама папярэдзіў гэту публіку, каб яна да яго не заляцалася. Прагрэсіўнае грамадства не знаходзіць сабе месца ад такога кшталту эскападаў, і нават прапануе пазбавіць Валенсу звання лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру. Адзінае, што радуе змагароў за гендэрную роўнасць, вынікі сацыялагічных апытанняў. Калі верыць праваму выданню «Rzeczpospolita», толькі 33 працэнты палякаў падтрымліваюць прапановы славутага электрыка.

### ЛАУРА БАЛДРЫНІ

Новага спікера ніжняй палаты італьянскага парламента ад партыі «Левыя, экалогія, свабода» (SEL) называюць піянерам новай хвалі італьянскіх левых, якая ідзе на змену былым апаратчыкам Кампартыі, што пасля краху СССР перафарбаваліся ў левыя цэнтрысты. Лаура выйшла з асяродку, блізкага да няўрадавых арганізацый. Асноўныя этапы яе біяграфіі — валанцёр у Венесуэле, вучоба на юрыста, журналіст на тэлебачанні, праца ў шматлікіх структурах ААН. Імя сабе Лаура зрабіла ў 2009 годзе, калі выступіла супраць падпісанай дамовы паміж Сільвіа Берлусконі і Муамарам Кадафі аб паскоранай дэпартацыі ў Лівію ўсіх нелегалаў, затрыманых у Італіі. Як прадстаўнік Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў на востраве Лампедуза (галоўны перавалачны пункт афрыканскіх эмігрантаў на шляху ў Еўропу) яна патрабавала, каб справа кожнага нелегала разглядалася асобна. Сваю першую прамову ў якасці спікера яна прысвяціла праблемам беспрацоўнай моладзі. Спіч так кранут аўдыторыю, што выступоўцу віталі стоячы нават дэпутаты ад апазіцыйных правых партый.



### ІЕНГ САРЫ



Адзін з лідараў руху «Чырвоных кхмераў», які панаваў у Камбоджы, памёр 14 сакавіка ва ўзросце 87 гадоў, пакінуўшы пасля сябе незвычайную палітычную спадчыну. У гады дыктатуры ён займаў пасады намесніка прэм'ер-міністра і міністра замежных спраў Дэмакратычнай Кампучыі. Пол Пот таксама давераў яму так званы «ўнутраны фронт». Такім чынам, нябожчык, безумоўна, нёс прамую адказнасць за генацыд каля 1,7 мільёна суайчыннікаў у 1975–1979 гадах. Менавіта ён прыдумаў, каб пры кожным міністэрстве быў пабудаваны свой ведамасны канцлагер, каб кідаць туды усіх супрацоўнікаў, падазраваных у палітычнай нелаяльнасці. Дзякуючы персанальнай амністыі караля Сіанука, Іенг здолеў пазбегнуць пакарання пасля краху рэжыму «Чырвоных кхмераў». Толькі ў 2007 годзе яго арыштавалі, а ў 2009-м выставілі абвінавачанне ў парушэнні правоў чалавека. Увогуле, Іенг Сары памёр у разгар судовых слуханняў. Праваабаронцы ўжо заявілі, што справа Іенга, якога не паспелі асудзіць, моцна б'е па аўтарытэту Феміды. Яны патрабуюць, каб у будучым следства і суд над падазраванымі ў парушэнні правоў чалавека адбываліся больш хутка. Цікава, што сам «Брат нумар тры» (так афіцыйна называлі Іенга ў часы «Чырвоных кхмераў»), да канца жыцця адмаўляўся прызнаць свае злачынствы. Ён нават сцвярджаў, што хутчэй выратоўваў людзей, чым забіваў іх.

ГАДАВІНА

# 60 ГАДОЎ БЕРЫЕЎСКАЙ АМНІСТЫІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**60 гадоў таму, згодна з указам ад 27 сакавіка 1953 года, з савецкіх лагераў і калоній было вызвалена каля 1,2 мільёна чалавек. Амністыя справакавала ўсплёск злачыннасці ў Савецкім Саюзе.**



Г. Малянкоў і Л. Берыя



Брат майго дзеда Барыс Бабкоў (у 1953 годзе ўдзельнічаў у падаўленні бунту амніставаных крымінальнікаў)

У сакавіку 1953-га міністр унутраных спраў СССР Лаўрэнцій Берыя накіраваў Маленкову сакрэтную запіску, у якой, у прыватнасці, адзначалася, што «ўтрыманне вялікай колькасці зняволеных у лагерах, турмах і калоніях не выклікана дзяржаўнай неабходнасцю».

Берыя пазначаў, што з 2,5 мільёна вязняў ГУЛАГу толькі 220 тысяч чалавек з'яўляюцца асабліва небяспечнымі дзяржаўнымі злачынцамі. Акрамя гэтага, міністр падкрэсліваў, што «імклівы рост колькасці зняволеных выкліканы тым, што ў 1947 годзе былі прынятыя ўказы аб узмацненні крымінальнай адказнасці за крадзяжы. У выніку да 1 студзеня 1953 года ў лагерах апынулася 1 241 919 злодзеяў і раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасці, як у асабліва буйных, так і ў асабліва дробных памерах. У апошнім выпадку гаворка ішла аб даведзеных да адчаю савецкіх грамадзянах, асуджаных па так званых артыкулах «аб каласках».

У месцах зняволення знаходзілася каля паўмільёна жанчын, з якіх 6 286 цяжарных і 35 505 з дзецьмі ва ўзросце да двух гадоў. Акрамя гэтага, зняволенымі ГУЛАГу былі 238 000 пажылых людзей, а таксама 31 181 непаўналетні.

У выніку, Берыя прапанаваў удвая скараціць тэрмін пакарання асуджаным больш чым на 5 гадоў, вызваліць жанчын, якія маюць дзяцей да 10 гадоў, цяжарных жанчын, непаўналетніх (да 18 гадоў), пажылых і цяжка хворых людзей. З указа быў выкраслены абзац: «Не прымяняць амністыю да ваенных злачынцаў з ліку былых ваеннапалонных». У выніку гэтага магчымасць выйсці на свабоду атрымалі многія былыя «лясныя браты» з Прыбалтыкі, Украіны і Беларусі.

Амністыя не распаўсюджвалася на асабліва небяспечных дзяржаўных злачынцаў, асуджаных за бандытызм, наўмыснае забойства, контррэвалюцыйныя злачынствы і за крадзяжы сацыялістычнай маёмасці ў асабліва буйных памерах. Асуджаныя па палітычным 58-м артыкуле таксама пад амністыю не падпадалі.

27 сакавіка праект указа быў аднагалосна ўхвалены на пасяджэнні Прэзідыума ЦК КПСС і хутка ўступіў у сілу. На волю меркавалася выпусціць 1 203 421 чалавека, а таксама спыніць следчыя справы ў дачыненні да 401 120 грамадзян.

Адным з «птушанят Берыі» (так называлі, па аналогіі з адпушчанымі ў часы Керынскага, вызваленых па амністыі 1953-га) быў ураджэнец Пастаўскага раёна, Маладзечанскай вобласці БССР Вацлаў Палюлян. У жніўні 1948 года Народны суд Пастаўскага раёна прысудзіў 28-гадовага жыхара вёскі Рамашковічы да 10 гадоў пазбаўлення волі за дапамогу ў здзяйсненні забойства. Хутчэй за ўсё, хлопец нейкім чынам быў звязаны з польскім падполлем, якое дзейнічала на Пастаўшчыне.

Вацлаў Палюлян атрымаў максімальныя 10 гадоў пазбаўлення волі, з якіх, праўда, яму давялося адседзець толькі палову тэрміну. У даведцы 8-БС, выдадзенай В.І. Палюляну 24 ліпеня 1953 года, у прыватнасці, адзначалася, што асуджаны «адбываў пакаранне ў месцах зняволення МУС па ліпень 1953 года, пасля адбыцця тэрміну з ужываннем указа ад 27 сакавіка 1953 года вызвалены і вяртаецца да абранага месца жыхарства, а менавіта ў Маладзечанскую вобласць, Пастаўскі раён, горад Паставы». Лагернае кіраўніцтва забяспечыла Палюляна білетам і адправіла дадому.

14 красавіка 1953 года Берыя і Молатаў прапанавалі вызваліць усіх замежнікаў, што падпадалі пад амністыю. У выніку савецкія спецорганы перагледзелі судовыя прысуды ў дачыненні да 41 551 замежнага грамадзяніна, у тым ліку 18 393 ваеннапалонных. Датэрмінова з месцаў зняволення было вызвалена 16 574 замежніка.

Разам са звычайнымі грамадзянамі ў 1953 годзе на волю выйшлі і мацёрыя крымінальнікі. Крымінагенная абстаноўка ў Савецкім Саюзе ўскладнілася да крытычнага ўзроўню. Міліцыя не спраўлялася з разгулам злачыннасці і бандытызму. Былы супрацоўнік Міністэрства юстыцыі СССР Надзея Куршава ўзгадвала, што ў чэрвені 1953 года сталіца Бурат-Мангольскай ССР Улан-Удэ стала сапраўднай «гарачай кропкай».

Горад з'яўляўся фактычна пераваладчным цэнтрам, дзе сыходзіліся ўсе шляхі з Калымы і Магадана і, што самае страшнае, з Унутранай Манголіі. Гэта была не савецкая і не мангольская тэрыторыя, а адмысловы раён Кітая, у якім на пачатку 1950-х знаходзілася некалькі лагераў, дзе ўтрымліваліся забойцы, асабліва небяспечныя рэцыдывісты і рабаўнікі. Частка гэтых людзей выйшла на свабоду ўлетку 1953 года. Для большасці з іх чыгуначны вузел Улан-Удэ быў першым горадам на іх шляху.

У другой палове чэрвеня пачаўся беспрэцэдэнтны рост злачыннасці ў горадзе. Усе дзяржаўныя ўстановы былі пераведзены на казарменнае становішча. У Міністэрстве юстыцыі ў кабінетах былі ўсталяваныя раскладанкі, на якіх спалі супрацоўнікі. Вокны першага паверха былі закладзеныя мяшкамі з пяском, і ўстаноўлены кулямёты. Будынак пастаянна ахоўвалі аўтаматчыкі. Некалькі самых небяспечных дзён Міністэрства юстыцыі жыло практычна ў аблозе.

Ва Улан-Удэ пачаліся масавыя забойствы грамадзян. Міліцыя не спраўлялася з такім усплёскам злачыннасці: калі супрацоўнікі і хадзілі ў форме, то толькі групамі і са зброяй. Па раніцах на вуліцах збіралі трупы абрабаваных і забітых ноччу.

Адзінае, што маглі зрабіць улады, — гэта заклікаць грамадзян па радыётрансляцыі не выходзіць на вуліцу, забарыкадаваць дзверы і вокны. Дапамагала гэта мала. Крымінальнікі разрабавалі ўсе крамы, кафэ і іншыя прадпрыемствы грамадскага харчавання. Становішча было крытычным.

І партыйныя арганізацыі, і мясцовая ўлада, і міліцыя, і вайскоўцы апынуліся непадрыхтаванымі да фактычнага захопу горада бандытамі. Ва Улан-Удэ былі перакінутыя рэгулярныя часткі савецкай арміі з Чыты, іншых гарадоў і рэгіёнаў. Дзеянне ўказа аб непрымяненні смяротнага пакарання да злачынцаў было фактычна прыпынена, і некалькі дзён у горадзе ні днём, ні ноччу не змаўкала аўтаматная і кулямётная стральба. Бандытаў расстрэльвалі на вуліцах без суда і следства.

Падобныя падзеі адбываліся тады і пад Казанню. У адну з начэй ліпеня 1953 года курсантаў ваеннага вучылішча паднялі па трывозе, выдалі зброю, боепрыпасы і даставілі на паўстанак, размешчаны побач з горадам. Як аказалася, там спыніўся грузавы цягнік, у якім было больш за тысячу амніставаных крымінальнікаў. Адчуўшы свабоду, тыя вырваліся з таварных вагонаў і разбегліся па пасёлку, здзяйсняючы масавыя рабаванні, разбоі, згвалтаванні, забойствы.

Вайскоўцы і курсанты разам з міліцыянерамі атачылі пасёлак і загналі амніставаных у вагоны. Некаторых расстралялі пры аказанні супраціву. Былі ахвяры і сярод вайскоўцаў. Такія выпадкі адбываліся практычна па ўсёй краіне. У сувязі з сітуацыяй 2 ліпеня 1953 года Прэзідыум ЦК КПСС ухваліў праект Указа «Аб непрымяненні амністыі да асоб, асуджаных за разбой і злодзеяў-рэцыдывістаў».

Сёння большасць даследчыкаў падкрэслівае, што амністыя 1953 года, нягледзячы на ўсе негатыўныя яе наступствы, усё ж мела свае пазітыўныя бакі, перш за ўсё таму, што яна стала выратаваннем для многіх тысяч бязвінна асуджаных савецкіх грамадзян.

А што ж Вацлаў Палюлян? Праз пяць месяцаў пасля вызвалення з лагеру, 18 снежня 1953 года, на падставе выдадзенай у лагеры даведкі 8-БС былы асуджаны атрымаў савецкі пашпарт. Дарэчы, у новым дакуменце жыхар тагачаснай Маладзечанскай вобласці БССР на ўсялякі выпадак запісаўся беларусам.



СССР
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ
Форма «А»
ВИДОМ НА ЖИТЕЛЬСТВО НЕ СЛУЖИТ
ПРИ УТЕРЕ НЕ ВОЗОБНОВЛЯЕТСЯ
8-БС
СПРАВКА №0001731
24 июля 1953 г.
Выдана гражданину (ке) Полюлян Вацлаву Ивановичу
1920 года рождения, уроженцу Поставского р-на Молодечненской обл.
гражданство (подданство) СССР национальность Поляк
осужденному (ой) Нарсудом Поставского р-на Молодечненской обл.
«13» августа 1948 г. по ст.ст. 24-219 «б» УК БССР
к лишению свободы на десять лет с поражением в правах на нет года, имеющему (ей) в прошлом судимость не судим
в том, что он (она) отбывал (ла) наказание в местах заключения МВД по «24» июля 1953 г. и по отбытию срока
С применением Указа от 27/III-53 г.
Освобожден (на) «24» июля 1953 г. и следует к избранному месту жительства
Молодечненская обл. Поставский р-н
(город, село, район, область)
до ст. Поставы Западной жел. дороги
Начальник лагеря (ИТК)
Нач. Отдела (части)
Печать

Даведка Вацлава Палюляна аб вызваленні.,1953 г.



ПАСПОРТ
Действителен по 18 декабря 1958 г.
1. Имя, отчество, фамилия Полюлян Вацлав Иванович
2. Время и место рождения 6/XI-1920 г.
3. Национальность белорус
IV-ОЦ № 609576
4. Подпись владельца паспорта
5. Социальное положение колхозник
6. Отношение к военной службе военнообязанный
7. Кем выдан паспорт Поставским РО МВД Молодечненской обл. БССР гор. Поставы
8. На основании каких документов выдан паспорт справка 8-БС №0001731 от 24/VII-53 ... «положение о паспортах»
Начальник милиции
Нач. паспортного стола
М. П.
Дата выдачи 18/XII-1953 г.
IV-ОЦ № 609576

Пашпарт Вацлава Палюляна

СУАЙЧЫННІКІ

# БЕЛАРУСКА Ў САЛЬВАДОРЫ

Эла ДЗВІНСКАЯ

**Маргарыта пазнаёмілася з Хаймэ Вільякорта з Сальвадора ў 1980 годзе. Яны вучыліся разам у Мінску. Ажаніліся, у іх нарадзілася дачушка Ліхія Марыя. У той час у Сальвадоры ішла грамадзянская вайна. У 1987 годзе маладая сям'я з'ехала спачатку ў Нікарагуа, і толькі праз колькі год у Сальвадор. Цяпер сям'я жыве ў Сальвадоры. Абодва — універсітэцкія выкладчыкі. Яны перадаюць свае шчырыя прывітанні сябрам і знаёмым з Беларусі.**


Рабэрта Гарсія, Маргарыта і Хаймэ Вільякорта — студэнты БДУ, 1984


Маргарыта Вільякорта і яе дочкі, 2012

## Студэнцкае шчасце

Зямляцтва сальвадорцаў у Мінску на той час было нешматлікім, усяго 10 чалавек. Яны былі студэнтамі БДУ, БПІ, Інстытута народнай гаспадаркі і іншых. Трое з іх вучыліся на журфаку БДУ.

Аднойчы вясёлая дзяўчына з чарнявымі кудрамі сустрэла такога ж вясёлага і чарнявага хлопца. І не бяда, што хлопец быў з Сальвадора — краіны, дзе ішла грамадзянская вайна. Яны закахаліся і хутка ажаніліся.

Марго і Хаймэ жылі ў маленькім пакойчыку студэнцкага інтэрнату архітэктурнага факультэта БПІ. Маргарыта вучылася на архітэктара, Хаймэ Вільякорта — на журналіста. Іх маленькая дачушка Ліхія Марыя хадзіла ў звычайны садок у мікраранёне «Усход», а калі хварэла, да яе прыходзіла тая самая старэнькая доктарка Бурава, што даглядала ўсіх дзетак на шматнаселеным участку.

Сальвадорцы, як і іншыя лацінаамерыканцы, ладзілі вечарыны, адзначалі нацыянальныя святы, праводзілі фестывалі з канцэртамі і гатаваннем традыцыйных страў. Танчылі румбу і сальсу. На вечарынах беларускія хлопцы і дзяўчаты даведваліся пра жыццё ў краінах Лацінскай Амерыкі.

Калі вучоба скончылася, прыйшоў час нешта вырашаць. Для Маргарыты не стаяла пытанне, ці ехаць з мужам. Яна ад самага пачатку ведала, што ніколі з ім не разлучыцца. Але адразу ў Сальвадор сям'я ехаць не магла. У 1987 годзе яны паехалі спачатку ў Нікарагуа. І толькі праз 5 гадоў — у Сальвадор.

## Ліст з Цэнтральнай Амерыкі

— Hola, amigos! — напісала Маргарыта Вільякорта ў лісце з Сальвадора да сваіх беларускіх сяброў. — Мы рады зноў скантактавацца з вамі пасля дваццаці пяці гадоў перапынку, і мы памятаем пра вас. Аднойчы мы хацелі б вярнуцца турыстамі ў Беларусь — у краіну, дзе прайшлі 7 гадоў нашай маладосці.

Не ведаю, ці памятаеце вы мяне і ці будзе цікавы вам мой расповед.

Мы жывем цяпер дома, у сваёй краіне. Урад у нас зараз левы, але на працягу года адбудуцца прэзідэнцкія выбары, і зноў вызначыцца, хто зможа перамагчы.

Фронт нацыянальнага вызвалення Фарабунда Марці (ФНВФМ) быў ваеннай арганізацыяй, якая вяла партызанскую вайну ў васьмідзесятых гадах. Цяпер гэта партыя, якая набыла вялікую папулярнасць. У 2009 годзе яна перамагла на выбарах са сваім кандыдатам Маўрысіа Фунэсам. Ён наш прэзідэнт сёння. Па адукацыі — журналіст, вельмі прафесійны, але ўмераны ў сваіх палітычных і ідэалагічных падыходах.

Фронт нацыянальнага вызвалення мае 35 месцаў у парламенце. Правая партыя ARENA — 32 месцы. Таксама дзейнічаюць Партыя нацыянальнага прымірэння (PCN), Хрысціянска-дэмакратычная партыя (PDC) і Партыя дэмакратычных пераменаў.

Пасля заканчэння вайны ў 1992 годзе грамадзяне змаглі вярнуцца з палітычнай эміграцыі, і для нас адкрылася прастора для дзейнасці. На жаль, некаторыя сябры не вярнуліся, яны засталіся жыць у Еўропе, Мексіцы і іншых краінах. Калі мы жылі ў Нікарагуа, Хаймэ працаваў там на радыё.

У Сальвадоры сітуацыя была цяжкой, але мы справіліся з ёй і прысвяцілі сябе выкладанню ва ўніверсітэтах. Сёння мы — універсітэцкія прафесары. Хаймэ Вільякорта выкладае ў прыватным універсітэце горада Сан-Тэкла, а я — у дзяржаўным. Наша старэйшая дачка Ліхія Марыя — акуліст, малодшая Ларыса вывучае антрапалогію ва ўніверсітэце.

Эканоміка ў краіне яшчэ слабая, і медыцына таксама, але мы як працаўнікі маем права на сацыяльнае забеспячэнне і жывем з нашых заробкаў адносна стабільна і камфортна.

У краіне засталося шмат праблем, якія мы атрымалі ў спадчыну ад вайны, але важна, што Сальвадор быў рэканструяваны пасля дванаццаці гадоў грамадзянскай вайны.

Нягледзячы на цяжкасці, у Сан-Сальвадоры заўсёды можна ўбачыць што-небудзь цікавае, тут адбываецца мноства культурных падзей: фестываляў, канцэртаў, парадаў, карнавалаў, гісторыя апошніх сыходзіць каранямі ў іспанскія каталіцкія традыцыі.

Адно з самых яркіх свят у насычаным падзеямі сальвадорскім календары — Эль-Сальвадор-дэль-Мунда — прысвечана заступніку краіны, Збаўцу Свету, Ісусу Хрысту. Афіцыйныя святочныя шэсці праводзяцца 5–6 жніўня, гэтыя дні афіцыйна абвяшчаюцца выхаднымі. Нават Вялікдзень у Сальвадоры набывае адмысловы вобраз. У перыяд Сэмана-Санта (Перадвялікоднага тыдня) на вуліцы горада выходзяць маляўнічыя карнавальныя працэсіі, палюбавацца на якія кожны год прыязджаюць тысячы людзей з суседніх краін.


Краявіды Сальвадора

У сальвадорскай правінцыі ўплыў іспанскіх традыцый яшчэ мацнейшы: там адзначаюць такое асаблівае іспанскае свята, як Дзень маўраў і хрысціян (прысвечаны перамозе іспанцаў у вайне з маўрамі). Але і Дзень індзейцаў таксама святкуюць.

Цяпер у нас ёсць дэмакратыя, палітычны пераслед скончыўся, але эканамічны крызіс з'яўляецца сур'ёзнай праблемай. Галеча, несправядлівая сістэма размеркавання выгод, дзейнічаюць банды. Але мы дома, і нам добра. Мы марым калі-небудзь як турысты зноў прыехаць на Беларусь, дзе людзі былі добразычлівымі да нас.

## Сальвадо — гэта…

Рэспубліка Эль-Сальвадор — самая шчыльна населеная дзяржава ў Цэнтральнай Амерыцы. Яна мяжуе з Гандурасам на ўсходзе і поўначы, і Гватэмалай на захадзе, на поўдні абмываецца Ціхім акіянам. Плошча — 21 тысяча квадратных кіламетраў, насельніцтва — каля 6 мільёнаў чалавек.

Сальвадор называюць краінай азёраў і вулканаў. Самы вялікі з іх — Ісалька — з XVIII стагоддзя перыядычна дзейнічае. Яго зарава ўспыхвае, нібы маяк на ўзбярэжжы.

Там растуць каштоўныя пароды дрэваў — бальзамавае і жоўтае, гішпанскі кедр, какосавыя пальмы, мангавыя дрэвы і інжыр.

Археолагі датуюць перыяд засялення Сальвадора I–VII стагоддзямі. Першымі тут з'явіліся майя. Затым наўа, перасяленцы з земляў тальтэкаў. Гэтыя два этнасы, аб'яднаўшыся, сталі называць сябе піпілямі і стварылі на мяжы IX–X стагоддзя на тэрыторыі паміж рэкамі Рыа-дэль-пасам і Лемпай дзяржаву, названую імі Кускатлан, што перакладаюць як «Дарагая мая зямля», ці «Зямля каштоўнасцяў».

У 1524 годзе паплечнік заваёўніка Мексікі Эрнанда Картэса, Пэдра дэ Альварада, уварваўся на тэрыторыю індзейскай дзяржавы Кускатлан.

У 1525 годзе ён заснаваў горад Сан-Сальвадор.

З 1560 па 1821 год тэрыторыя ўваходзіла ў склад генерал-капітанства Гватэмала.

Асновай эканомікі Сальвадора ў каланіяльную эпоху было земляробства. Пазней была створана федэратыўная дзяржава Злучаныя Правінцыі Цэнтральнай Амерыкі, у якую ўвайшлі сучасныя Гватэмала, Гандурас, Сальвадор, Нікарагуа і Коста-Рыка. Гэтая федэратыўная рэспубліка праіснавала нядоўга — унутраная барацьба і ваенныя канфлікты прывялі да яе распаду.

У 1839 годзе Сальвадор стаў самастойнай рэспублікай. Гісторыя краіны ў XIX стагоддзі насычана шматлікімі дзяржаўнымі пераваротамі, звязанымі з бесперапыннай барацьбой паміж кансерватарамі і лібераламі, а таксама са спробамі аднавіць федэрацыю рэспублік Цэнтральнай Амерыкі, што прыводзіла да пастаянных войнаў паміж рэспублікамі.

З другой паловы XIX стагоддзя асновай эканомікі Сальвадора зрабілася вытворчасць і экспарт кавы. Для развіцця гэтай галіны пабудавалі чыгунку, якая звязала раёны кававых плантацый з марскімі партамі. Другой галоўнай сельскагаспадарчай культурай стала кукуруза, вырошчвалі рыс, бабовыя, бавоўнік.

Першыя парасткі дэмакратыі ў Сальвадоры з'явіліся ў 1927 годзе, пасля прыходу да ўлады прэзідэнта Піа Рамэра Боске. Ён ажыццявіў рэформы, у выніку якіх паўстала плюралістычная палітычная сістэма.

Наступны прэзідэнт, Артура Араўха, у 1931 годзе быў абраны сальвадорцамі з шасці кандыдатаў. Араўха ініцыяваў расследаванне фінансавых махінацый у арміі Сальвадора, што прывяло да вайсковага перавароту ў снежні 1931 года. Аб планах змоўшчыкаў ведаў віцэ-прэзідэнт краіны Максіміліяна Эрнандэс Марцінэс, ён і стаў кіраўніком дзяржавы. Такім чынам, кароткі перыяд дэмакратыі скончыўся ўсталяваннем ваеннай дыктатуры Эрнандэса Марцінэса.

У 1944 годзе ў выніку выступаў арміі, студэнцтва і шэрагу палітычных груповак, Эрнандэс сышоў у адстаўку. Пасля ва ўладзе чаргаваліся вайскоўцы і фармальна грамадзянскія, пад кантролем вайскоўцаў, урады.

У канцы 1970-х гадоў камбінацыя эканамічных і палітычных фактараў — падаўленне іншадумства славімі метадамі, грубыя падтасоўкі на выбарах, прыгнёт апазіцыйнай прэсы, змена рэгіянальнай сітуацыі ў сувязі з сандзініцкай рэвалюцыяй у Нікарагуа — у краіне пачалася грамадзянская вайна паміж ваенным рэжымам і левымі палітычнымі групамі, арганізаванымі ў Фронт нацыянальнага вызвалення імя Фарабунда Марці.

Грамадзянская вайна працягвалася з 1979 па 1992 год і завяршылася заключэннем мірнага пагаднення, роспускам узброеных фарміраванняў апазіцыі і легалізацыяй ФНВФМ, скарачэннем арміі, перафармаваннем паліцыі, спыненнем ваеннага кіравання. Гэта стварыла перадумовы для ўсталявання дэмакратыі ў краіне ў 1994 годзе.

РЭЦЭНЗІЯ

# ПАЎСТАННЕ Ў ІМЯ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**150-годдзе паўстання Кастуся Каліноўскага амаль не заўважана з боку афіцыйных уладаў. Больш за тое, сапраўднай абразай для беларусаў стала правядзенне ў студзені псеўданавуковай канферэнцыі, арганізаванай прыхільнікамі заходнерусізму ў Беларусі. Прадстаўнікі беларускай навуковай супольнасці падрыхтавалі годны адказ адэптам імперскасці. 23 сакавіка 2013 года ў Мінску адбудзецца навуковая канферэнцыя «Паўстанне 1863 года на Беларусі і Кастусь Каліноўскі».**

Арганізатарамі гэтага навуковага форуму сталі Інстытут беларускай гісторыі і культуры (Рыга) і Інстытут развіцця дэмакратыі і сацыяльнага рынку для Беларусі і Усходняй Еўропы (Вільня). Напярэдадні канферэнцыі быў выдадзены зборнік артыкулаў яе ўдзельнікаў. Выданне змяшчае грунтоўны навуковы аналіз падзей Паўстання 1863–1864 гадоў у беларуска-літоўскім краі. Яго плюсам з'яўляецца адсутнасць ідэалагічных клішэ, што характэрна для прац сучасных афіцыйных гісторыкаў.

У прадмове да кнігі старшыня «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» Віталь Рымашэўскі падкрэсліў, што аўтары зборніка імкнуліся «зрабіць постаць Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў больш блізкімі і зразумелымі для ўсіх сучасных беларусаў». Гэта вельмі важна, бо гісторыю тых падзей сёння жадаюць перапісаць, выкрасліць з нацыянальнай памяці. Перашкодзіць гэтаму могуць толькі навукоўцы.

Зборнік складаецца з чатырох частак. Першая мае назву «Агульны абрыс паўстання» і прадстаўляе чытачу характарыстыку яго ключавых падзей у беларуска-літоўскім краі. Адчыняе раздзел артыкул памерлага ў 1999 годзе мэтра айчыннай гістарыяграфіі, доктара гістарычных навук Міхася Біча, у якім той прадставіў не толькі гісторыю Паўстання 1863 года на Беларусі, але і зрабіў глыбокі аналіз гістарыяграфіі пытання.

Адной з высноў гісторыка з'яўляецца ідэя, што «з дзейнасцю Кастуся Каліноўскага звязана перарастанне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў палітычны, у барацьбу за дзяржаўнасць Беларусі ў форме народаўладдзя, пры якой урад



быў бы добрым слугой народа». І гэта сапраўды так. Паўстанне дало магчымасць беларусам адчуць сябе не сярмяжнай масай тутэйшых, а народам, у якога багатыя гістарычныя традыцыі, свая культура, мова, рэлігія. І за ўсё гэта варта змагацца. Паўстанне абудзіла свядомасць беларусаў, і ў пачатку XX стагоддзя яны змогуць заявіць пра сябе ўголас.

Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Хільманюк прааналізаваў асноўныя стэрэатыпы, характэрныя для савецкай гістарыяграфіі Паўстання 1863 года. Аўтар даказвае, што ўзброенае выступленне не было выключна змаганнем з расійскім самаўладдзем, як і не мела выключна польскі нацыянальны характар. У ім выразна праявіліся рысы беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Аўтар слушна падкрэслівае, што ў польскай гістарыяграфіі Кастуся Каліноўскага «палякам», у адрозненні, напрыклад, ад Касцюшкі, не называюць. У сваю чаргу, расійскія, а пазней і савецкія гісторыкі ў ідэалагічных мэтах спрабавалі ахарактарызаваць Паўстанне 1863 года як чарговую «польска-расійскую вайну». Так было лягчэй абгрунтаваць уключэнне Беларусі і Украіны ў склад Расійскай імперыі і СССР.

Аргументавана абвяргае Уладзімір Хільманюк і тэзіс, што нібыта ў паўстанні ўдзельнічалі толькі каталікі. Насамрэч сярод паўстанцаў было багата і праваслаўных. Нарэшце, ён разбурае стэрэатып пра класавасць паўстанцкага асяроддзя, адзначаючы, што сярод інсургентаў былі прадстаўнікі розных грамадскіх груп.

Рэдактар гістарычнага альманаха «Дзяды» Анатоль Тарас ахарактарызаваў ключавыя моманты паўстання ў Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі. Нягледзячы на тое, што Паўстанне ад пачатку было асуджана на паразу, яно, на погляд аўтара, аказала значны ўплыў на развіццё палітычнай актыўнасці сярод беларускай інтэлігенцыі ў пачатку XX стагоддзя.

У другой частцы зборніка «Аспекты і вынікі паўстання» кандыдат гістарычных навук Андрэй Кіштымаў падрабязна распавядае пра ролю, якую адыграла чыгунка ў падзеях Паўстання Кастуся Каліноўскага. Даследчык пазначае, што ў 1863–1864 гадах чыгуначныя шляхі, якія праходзілі па Беларусі, сталі арэнай, па сутнасці, першай у нашай гісторыі рэйкавай вайны.

Аўтар гэтай рэцэнзіі ў сваёй публікацыі, змешчанай у зборніку, прааналізаваў асноўныя пастулаты польскай гістарыяграфіі Паўстання 1863 года ў беларуска-літоўскім краі. Характэрна, што польскія даследчыкі ў сваёй большасці падкрэслівалі менавіта беларускі характар узброенага выступлення ў Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі. У гэтым прынцыповае адрозненне іх пазіцыі ад пазіцыі прадстаўнікоў расійскай і савецкай гістарыяграфіі.

Доктар гістарычных навук Леанід Лыч у сваім артыкуле звярнуў увагу на русіфікатарскую палітыку, якую ажыццяўляла царская адміністрацыя пасля падаўлення Паўстання 1863–1864 гадоў. Ключавая выснова аўтара: у тагачасных жорсткіх, экстрэмальных умовах у беларускай культуры амаль не было шансаў на развіццё.

У трэцяй частцы зборніка «Каліноўскі і яго спадчына» доктар гістарычных навук Віктар Яварoўскі аналізуе змест галоўнай паўстанцкай газеты «Мужыцкая праўда» і адзначае, што па яе матэрыялах «можна прасачыць пэўную ідэалогію нацыянальна-вызвольнага руху, тактыку і стратэгію рэвалюцыйнай барацьбы за перабудову грамадства, акрэсліць мэты і задачы паўстанцаў».

У развіццё тэмы кандыдат гістарычных навук Юрась Бачышча засяродзіў сваю ўвагу на тым месцы, якое займала постаць Кастуся Каліноўскага ў друкаванай спадчыне беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Беларускія хадэкі, падкрэсліў даследчык, бачылі ў лідары Паўстання 1863 года пачынальніка барацьбы за палітычнае вызваленне беларусаў.

Нарэшце, апошняя, чацвёртая частка працы, змяшчае першакрыніцы: тэксты «Мужыцкай праўды» і «Лістоў з-пад шыбеніцы».

Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі «Паўстанне 1863 года на Беларусі і Кастусь Каліноўскі» ўсебакова асвятляюць падзеі ўзброенага выступлення супраць Расійскай імперыі на тэрыторыі беларуска-літоўскага краю. І даюць годны адказ на ўсе заходнерускія імперскія праявы ў дачыненні да Паўстання 1863–1864 гадоў на Беларусі і асобы яе лідара — Кастуся Каліноўскага.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 337

Падпісана да друку 22.03.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча